№ 29 (914) 5 жніўня 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыдНёва, у серады

## 15500

Па выніках таргоў на Беларускай валютна-фондавай біржы ў аўторак замежныя валюты працягнулі рост.
Беларускі рубель абясцэніўся нават да расійскага рубля.
Афіцыйны курс даляра вырас на 151 рубель, да 15497 рублёў. Гэта гістарычны максімум.
Па росце цэн і абясцэньванні грошай Беларусь за перыяд 2010—2015 года — найгоршая ў Еўропе.

## Лукашэнка: З малодшым сынам усё больш размаўляю па-беларуску



У інтэрв'ю недзяржаўным СМІ Аляксандр Лукашэнка гаварыў так, каб спадабацца іх чытачам. **Старонка 3**.

Пікет за вызваленне палітвязняў насупраць будынка КДБ, які адбыўся 4 жніўня.

# «Калі выпускаць Статкевіча, то выпускаць да выбараў»

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## «Вар'яцтва з фантанамі прыйшло да нас з Расіі»



2 жніўня традыцыйна адзначаецца Дзень дэсантніка. Карэспандэнт «НН» пагутарыў з дэсантнікам, які служыў у першыя гады незалежнасці. **Старонка 12.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Як беларускія чыноўнікі становяцца мільянерамі



Прыклад міністра энергетыкі Уладзіміра Патупчыка. **Старонка 5.**

## Уладзімір Някляеў: Хто здаўмеўся над замкам у Крэве будаваць ферму?

Скуль узялося ў беларускім свеце столькі поскудзі, якая зняважае ўсё святое? **Старонка 10.**

## Заваёўнік дамскіх сэрцаў са Смаргоні трапіў у гісторыю

У Расіі Сяргей Січкар прагрымеў у «Доме-2», а ў Беларусі скраў чатыры машыны? **Старонка 11**.

# Даляр б’е рэкорды, рэзервы таюць

**Нафта патаннела да $50, услед за ёй паваліўся расійскі рубель.**

Нафта маркі *Brent* патаннела да $50 за барэль, апошні раз такія лічбы назіраліся паўгода таму. Прычыны такога падзення (8% за тыдзень) — скарачэнне эканомікі Кітая і падзенне тамтэйшых фондавых рынкаў, а таксама асцярогі што да хуткага выхаду Ірана на нафтавы рынак.

У Расіі танная нафта адразу ж абясцэньвае мясцовую валюту. За даляр даюць больш за 63 расійскія рублі. Гэта максімальны ўзровень ад пачатку сакавіка.

Нацбанк Беларусі імкнуўся захаваць курс даляра на ранейшым узроўні, павольна апускаючы ўніз расійскі рубель. Але ў такім выпадку можна было б зноў аказацца ў пераднавагоднай сітуацыі.

Таму даляр атрымаў дабро на рост. Афіцыйны курс амерыканскай валюты дасягнуў 15497 рублёў. Еўра таксама забраўся высока — амаль 17 тысяч.

Аналітыкі аўстрыйскай банкаўскай групы *Raiffeisen* («Прыёрбанк») тым часам перагледзелі прагноз па развіцці беларускай эканомікі. Яны чакаюць зніжэння ВУП Беларусі на 3,5% за год (вясной меркавалі пра -2%).

Што да золатавалютных рэзерваў Беларусі, эксперты прагназуюць скарачэнне да крытычных $2,8 мільярда.

**Ягор Марціновіч**

# Лукашэнка захацеў нафты, але запозна

**Ці ёсць у Беларусі невядомыя радовішчы?**

Аляксандр Лукашэнка ў чарговы раз выказаў упэўненасць, што ў Беларусі мусяць быць вялікія неразведаныя радовішчы карысных выкапняў.

«На падобных тэрыторыях у Расіі і іншых краінах здабываецца нямала нафты і прыроднага газу, а таксама каштоўных металаў — падмурку ўстойлівай эканомікі любой дзяржавы», — дадаў Лукашэнка.

Гэтаксама выказаўся і міністр прыродных рэсурсаў Андрэй Каўхута: маўляў, на тэрыторы Беларусі шмат белых плямаў, і дзесьці там, напэўна, нафта ёсць.

Ці маюць яны рацыю? «Безумоўна, нафта ў нас ёсць. Існуюць вялікія грунтоўныя даследаванні па гэтай тэме, — каментуе супрацоўнік Інстытута прыродакарыстання Акадэміі навук доктар геолага-мінералагічных навук Аляксандр Карабанаў. — Той жа Прыпяцкі прагіб — патэнцыйны «эмірат», але даследаванні па пошуку нафты патрабуюць шмат фінансаў, часу і працы дасведчаных геолагаў».

Ягоныя словы канкрэтызуе Павал Севярынец, які таксама мае адукацыю геолага.

«Беларусь — неймаверна багатая на карысныя выкапні краіна, у нас ёсць і солі, і вада, і сланцы, і торф з бурштынам ды жвірам... А што да нафты, то яе запасы таксама існуюць, — мяркуе палітык. — Але геалогія — гэта вельмі стратэгічная навука. Каб штосьці з яе атрымаць сёння, трэба было ўкласці туды велізарныя грошы дваццаць гадоў таму. То бок калі Лукашэнка толькі прыйшоў да ўлады. Сёння ж у Беларусі няма тых мільярдаў даляраў, якія патрабуюцца для распрацоўкі новых радовішчаў».

Паводле Паўла Севярынца, цяпер грошы і тэхналогіі трэба шукаць на Захадзе, каб пашырыць здабычу нафты з сённяшніх двух мільёнаў бараляў у год да 40 мільёнаў — менавіта на такія аб’ёмы разлічаная нашая нафтаперапрацоўчая прамысловасць. «Мы спазніліся, трэба даганяць», — падсумаваў Павел.

**Арцём Гарбацэвіч**




# Самыя тыражныя — не Колас з Купалам

Хто з беларускіх пісьменнікаў меў найбольшыя наклады ў савецкі час? Паводле дадзеных Нацыянальнай Кніжнай палаты, гэта дзіцячы аўтар Аляксандр Якімовіч (1904—1979).

Калі казаць пра колькасць выданняў, то на першым месцы Якуб Колас (216 выданняў), а за ім усё той жа Якімовіч (192) і Янка Купала (136).

**Інфаграфіка «Радыё Свабода»**

# У гарах Каўказа разбіўся беларускі альпініст Уладзімір Сіроцін

**Яго цела павінны прывезці ў Беларусь.**

У канцы ліпеня пры ўзыходжанні на гару Джангітаў у Кабардзіна-Балкарыі загінуў беларускі альпініст. Гэта быў 64-гадовы Уладзімір Сіроцін, вядомы і як фатограф.

Сіроцін — фізік па адукацыі. Але любіў падарожжы. І больш за 30 гадоў займаўся альпінізмам. Ён падымаўся на вяршыні Каўказа і Паміра, хадзіў у лыжныя паходы па Урале і Кольскім паўвостраве. І пастаянна браў з сабой камеру. Да 60-годдзя, у 2011, ён зладзіў фотавыставу «Горы поўначы і поўдня».

Сёлета Уладзімір адправіўся ў горы проста з воднай вандроўкі па Віліі шляхам Тышкевіча. Як расказалі знаёмыя, 4 жніўня ён ужо меркаваў вярнуцца ў Беларусь. Так сталася, што акурат 4 жніўня павінны прывезці ў Мінск яго цела.

**КМ**

## На Брэстчыне і Гродзеншчыне нельга ісці ў лес

У сувязі з надыходам спякотнага надвор’я з 5 жніўня ўведзена забарона на наведванне лясоў па ўсёй Гродзеншчыне.

Забарона ўжо дзейнічае па ўсёй Брэсцкай вобласці, у асобных раёнах Гомельскай і Мінскай абласцей (у тым ліку Мінскі раён). Ад пачатку сезона ў Беларусі зафіксавана больш за паўтысячы лясных пажараў.

**Аляксандр Арсёнаў**



## Сціісла

### Работнік мясакамбіната хацеў скрасці 50 палак каўбасы

Мужчыну, які позняй ноччу па другараднай дарозе адʼязджаў ад прадпрыемства на ўласным аўто, заўважылі супрацоўнікі дэпартамента аховы. Як высветлілася, работнік мясакамбіната перакінуў прадукцыю цераз плот, а затым сабраў яе і спрабаваў вывезці. У каўбаснага злодзея канфіскаваныя выкрадзеная прадукцыя агульнай вагой больш за 20 кг і аўто.

### Мінгандлю прыпыніла працу «Навасёлкіна»

З 4 жніўня закрыты будаўнічы гіпермаркет «Навасёлкін», які знаходзіцца на развязцы МКАД і віцебскай трасы. Мінгандлю знайшло парушэнні і прыпыніла працу крамы на 10 дзён.

### Домрачава прапусціць сезон

Гэта вынік таго, што спартоўка захварэла на мананукleоз — цяжкую інфекцыйную хваробу, якая рэзка зніжае імунітэт. Дар’я Домрачава мае намер «канчаткова аднавіцца без эмацыйных і фізічных перагрузак».

### На беларускім ТБ выцягнецца карцінка

Вяшчанне пяройдзе на больш сучасны фармат, вышыня і шырыня карцінкі будуць суадносіцца як 16:9 (пакуль што застаецца 4:3). Выява атрымаецца больш выцягнутай гарызантальна. Такі фармат выкарыстоўваецца ў тэлебачанні высокай выразнасці (HDTV) і з’яўляецца стандартам у новых тэлевізарах і камп’ютарных маніторах.

**ЯМ, СГ**

## Апытанне на nn.by

**Што ёсць галоўнай пагрозай свету?**

| | | |
|---|---|---|
| Расія | 1105 | 47% |
| «Ісламская дзяржава» | 377 | 16% |
| Змена клімату | 283 | 12% |
| Свету нічога ў глабальных маштабах не пагражае | 216 | 9% |
| Глабальная эканамічная нестабільнасць | 153 | 7% |
| Банкі і карпарацыі | 139 | 6% |
| Кітай | 52 | 2% |
| Кібератакі | 13 | 1% |
| Іранская ядзерная праграма | 10 | 0% |

Прагаласавала 2348 чалавек

## Самае чытанае на nn.by за 29 ліпеня—4 жніўня

1. Дзяўчаты ў пікетах: ТОП-6 прыгожых зборшчыц подпісаў у Мінску
2. Расія заблакавала стварэнне трыбунала па гібелі MH17, апынулася ў ізаляцыі. А хто ж устрымаўся?
3. Як Лукашэнка даверыў патрымаць сваю кепку старшыні Мінскага райвыканкама
4. «Мая курва ехала?» Я адказала: «Ехала». І ўсё». Шэкспіраўская трагедыя пад Магілёвам
5. Маладая маці Падольская прадэманстравала зграбны стан пасля родаў
6. Ураджэнец Рэчыцы прыехаў у родны горад на шыкоўным «Ламбаргіні»
7. У бранскім манастыры знойдзена пліта з «Пагоняй» часоў ВКЛ
8. Дзве кабеты-аднагодкі дажываюць у лясной вёсцы — гісторыі каталічкі Гені і стараверкі Антосі
9. Дырэктар Буда-Кашалёўскага каледжа: Студэнты зладзілі сапраўдны Майдан
10. Колькі подпісаў ужо сабралі за Караткевіч, Лябедзьку і Калякіна

# Лукашэнка: З малодшым сынам усё больш размаўляю па-беларуску

Аляксандр Лукашэнка даў інтэрв'ю для прадстаўнікоў **недзяржаўных выданняў**.

Ідэя такога фармату ўзнікла яшчэ ў студзені сёлета, на штогадовай вялікай прэс-канферэнцыі Лукашэнкі. Тады журналісты Зміцер Лукашук («Еўрарадыё») і Валерый Каліноўскі (радыё «Свабода») узялі з Лукашэнкі абяцанне аб эксклюзіўным інтэрв'ю. Перад выбарамі пра гэта ўзгадалі. Плюс да ўсяго запрасілі рэдактарку папулярнага сайта *tut.by* Марыну Золатаву.

Першапачаткова было паведамлена, што размова Лукашэнкі з журналістамі зойме паўтары гадзіны. У выніку ж мерапрыемства доўжылася ўтрая болей. Сустрэча адбывалася ў Палацы незалежнасці.

Першае, чым звяртаюць на сябе ўвагу адказы Лукашэнкі, — ён усяляк спрабаваў спадабацца публіцы недзяржаўных выданняў. Казаў тое, што чытачы і слухачы хацелі б пачуць.

### Беларуская мова

Зміцер Лукашук адразу прапанаваў Лукашэнку правесці інтэрв'ю па-беларуску. «Вы мяне з першага кроку абмяжоўваеце. Гэта недэмакратычна. Я скажу шчыра, што больш размаўляю па-беларуску», — адказаў Лукашэнка. Ён адзначыў, што з малодшым сынам пачынае ўсё больш гаварыць па-беларуску. Спраўдзіць гэта цяжка, але можна расцаніць як сігнал: вучыце дзяцей беларускай мове.

### Паездка ў Нью-Ёрк

Не, гэта не афіцыйны візіт у Злучаныя Штаты. Хутчэй, шараговая паездка на саміт ААН. Лукашэнка неаднаразова бываў у такіх, але апошнія гады запрашэнні з-за акіяна не прымаў. Цяпер жа 28—29 верасня ён збіраецца быць у Нью-Ёрку. «Мы рыхтуемся да гэтага візіту на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаў. Таму што гэта такі саміт, дзе будуць збірацца кіраўнікі дзяржаў. Прапанавалі двойчы выступіць на саміце ААН: на агульнай дыскусіі і тэматычнай. Давядзецца ехаць, гэта будзе няправільна, калі кіраўніка дзяржавы там не будзе», — сказаў Лукашэнка.

Дарэчы, за дзень да гэтага Лукашэнка меў сустрэчу з кангрэсменамі з ЗША. Падчас яе Лукашэнка сказаў, што Беларусь зацікаўленая ў дапамозе ЗША ў прасоўванні беларускага суверэнітэту.

### Мірныя вайсковыя базы

Лукашэнка адзначыў, што на тэрыторыі Беларусі знаходзяцца дзве «абсалютна мірныя расійскія вайсковыя базы».

«Самалёты я ў іх прасіў: «Дайце ці прадайце затанна дзясятак самалётаў. Яны сказалі, што могуць тры самалёты даць. Я кажу: «Добра, адзін ваш лётчык і два нашыя». Я не ведаю, нясуць яны цяпер дзяжурства ці не. Па-мойму, яны з'ехалі сёння. Самалётаў расійскіх у нас тут няма».

На пытанне, ці адчувае ён пагрозу з боку Расіі, Лукашэнка адказаў: «Расія ніколі не будзе ваяваць з Беларуссю. Гэта будзе катастрофа для самой Расіі. Беларусь засталася адзіным сумленным прыстойным саюзнікам Расійскай Федэрацыі».

### Ідэя рускага свету — глупства

А вось за гэтую фразу на Лукашэнку зноў накінуцца рускія нацыяналісты і шавіністы ўсіх масцей. Можна чакаць новых выкрывальніцкіх артыкулаў на «Рэгнуме» ці «Імперыі». «Ідэя рускага свету — гэта глупства, якое нехта прапанаваў прапагандзе».

### Далей без даўгоў

Адно з абяцанняў Лукашэнкі, якое яму могуць яшчэ не раз прыгадаць. Ён паабяцаў, што цягам пяці гадоў Беларусь цалкам пазбавіцца замежных даўгоў. І не будзе набіраць новых.



Лукашэнка цісне руку журналісту «Свабоды» Валерыю Каліноўскаму.

«Ва Уфе мы далі сабе клятву, што за пяць гадоў вырашым праблему даўгоў. Мы будзем праводзіць мадэрнізацыю больш спакойна і не пазычаць такія вялікія грошы», — адзначыў Лукашэнка, адказваючы на пытанне аб замежных крэдытах.

### Статкевіч выйдзе на волю?

Не абышлося без тэмы палітвязня Мікалая Статкевіча. Лукашэнка адзначыў, што пытанне вызвалення Статкевіча сапраўды стаіць на парадку дня. Аднак сам ён не вырашыў, якое ж рашэнне прыняць у гэтай сітуацыі.

«Я не стану хітрыць, гэта пытанне на парадку дня. Вырашыць гэта магу толькі я. Але я не вызначаўся, калі гэта будзе. Я гэтае пытанне ў такім ключы не разглядаў. Калі яго выпускаць, то выпускаць да выбараў. Калі не выпускаць, то не выпускаць. У бліжэйшы час вы будзеце пра гэта ведаць. Калі іншы варыянт, то часу шмат».

### Данбас будзе ўкраінскім

Што тычыцца ўкраінскай тэмы, то Лукашэнка паўтараў тэзы са сваіх мінулых выступаў. Маўляў, калі вы (украінцы) лічыце Крым сваім, дык чаго за яго не ваявалі. «Пройдзе час, і нават Данбас будзе ўкраінскім, такім нават, як хочуць нацыянальна арыентаваныя ўлады Украіны. З Крымам складаней, амаль немагчыма», — сказаў ён. А падачу расійскімі СМІ канфлікту на ўсходзе Украіны назваў «пасмешышчам».

### Паабяцаў наведаць Курапаты

Лукашэнка прызнаўся, што ні разу не быў на месцы масавых расстрэлаў, якія адбываліся ў 1930-я ў Курапатах. «Практычна кожны дзень праязджаю міма. На самім месцы я ні разу не быў, але плану туды пайсці. Я хачу там усё-такі сам пабыць (ну, гэта не публічна), узяць інфармацыю, дэпалітызаваць (я ўжо даручыў, каб мне далі). Мне якая розніца? Мне, прэзідэнту, які не вінаваты ні ў чым, ні ў сталінізме, ні ў фашызме, разабрацца — хто каго там расстрэльваў. Я гэта зраблю. Мне дапамогуць гэта зрабіць аб'ектыўна. І я хачу там пабыць. Пара паставіць там кропку. Праязджаючы міма, я заўсёды пра гэта думаю».

### Гастранамічныя прыярытэты

Ішла гаворка не толькі пра сур'ёзнае, але і пра прыватнае. Напрыклад, Лукашэнка падзяліўся тым, што есць разам з сынам Мікалаем.

«Я праўда ні разу... ну, можа, адзін раз каштаваў гэтую піцу ці гэтую сырую рыбу японскую — як яе? Сушы. Жах! Пакаштаваў аднойчы... Ну, у нас сабакі на вёсцы елі гэта». А што тычыцца Мікалая, то ён не любіць есці ікру і селядзец.

**ЗП**

# Доктарка ў працоўны час збірала ў хворых подпісы за Лукашэнку

Яе начальніца абяцае, што такое **больш не паўторыцца**.

Доктар-тэрапеўт гарадской паліклінікі №6 Гродна на выкліку прасіла хворага падпісацца за вылучэнне Аляксандра Лукашэнкі ў якасці кандыдата на прэзідэнцкую пасаду. Выпадак адбыўся 27 ліпеня, паведаміла жыхарка Гродна, якая папрасіла не называць яе імя.

Паводле яе слоў, раніцай у мінулы панядзелак яна выклікала на дом тэрапеўта для свайго хворага 27-гадовага сына. Доктарка, якая замяняла ўчастковага тэрапеўта, прыйшла прыкладна ў 20.30, яе сустрэў сам хворы, бо маці выйшла ў дзяжурную аптэку.

«У сына была высокая тэмпература — амаль 40 градусаў, тым не менш яна [доктарка] палічыла магчымым папрасіць у яго подпіс за Лукашэнку, — сказала жыхарка Гродна. — Вы ўяўляеце чалавека, у якога амаль 40 градусаў тэмпература? Тым больш, магчыма, у яго зусім іншая пазіцыя ў жыцці. Ён наогул не памятае, падпісаў ён ці не, ён гэтым мучыцца».

Пасля, паводле яе слоў, доктарка «на выклікі не з'яўлялася, мабыць, таму, што была занятая зборам подпісаў». 29 ліпеня пасля званка ў хуткую дапамогу маладога чалавека шпіталізавалі ў інфекцыйную бальніцу з дыягназам «гнойная ангіна». «Доктару, мабыць, не было часу ні ў аўторак, ні раніцай у сераду. Яна з'явілася толькі позна вечарам [у сераду], пакінула запіску ў дзвярах, але мы ў той час былі ў бальніцы», — адзначыла жыхарка Гродна.

Жанчына лічыць гэта «абуральным выпадкам», кажучы, што медыцына павінна быць «па-за палітыкай». Гэта, паводле яе слоў, «неэтычна, няправільна і насуперак усім нормам чалавечай маралі».

Пра здарэнне жыхарка Гродна расказала галоўнаму доктару паліклінікі №6 Наталлі Ягорчанка і папрасіла «прыбраць доктароў» з палітычнага працэсу.

У сваю чаргу галоўны доктар паліклінікі паведаміла, што ў жанчыны папрасілі прабачэння. Яна пацвердзіла, што таксама лічыць такую сітуацыю няправільнай. «Я папрасіла прабачэння і сказала, што надалей такога не паўторыцца», — сказала Ягорчанка.

Паводле слоў кіраўніка паліклінікі, сярод доктароў і медсясцёр установы ёсць сябры ініцыятыўнай групы Лукашэнкі, аднак займацца зборам подпісаў яны могуць толькі ў непрацоўны час.

З тэрапеўтам, якая папрасіла хворага маладога чалавека паўдзельнічаць у палітычным працэсе, як адзначыла Ягорчанка, «будзе праведзеная гутарка», у тым ліку «наконт этыкі і дэанталогіі». Акрамя маральнага аспекту, паводле слоў галоўнага доктара паліклінікі, таксама ўзніклі пытанні «па тактыцы лячэння пацыента», які пасля апынуўся на бальнічным ложку.

**БелаПАН**

### Хроніка парушэнняў

**Разнарадка для салігорскіх прадпрыемстваў**

Зборам подпісаў за Лукашэнку на прадпрыемствах звычайна займаюцца штатныя ідэолагі ды прафоргі. Так, кожнаму зборшчыку подпісаў на ААТ «Салігорскгандаль» неабходна было сабраць па 13 лістоў подпісаў, то бок па 208 штук. Для гэтага ўсіх работнікаў прадпрыемства абавязвалі прынесці на працу пашпарты.

**Пачалі збіраць да пачатку збору**

Жыхары інтэрнатаў завода «Зеніт» у Магілёве паведамілі зборшчыку ад АГП Аляксею Паўлоўскаму, што адміністрацыя прадпрыемства яшчэ да пачатку збору подпісаў загадала ўсім рабочым прыйсці з пашпартамі, каб выказацца ў падтрымку Лукашэнкі. Паўлоўскі сцвярджае, што тым, хто адмаўляўся падпісвацца, пагражалі скасаваннем працоўных кантрактаў.

**Райвыканкам стварыў ініцыятыўную групу**

Чавуская раёнка не хавае, што мясцовая ўлада выкарыстоўвае адміністратыўны рэсурс: «У райвыканкаме адбылося пасяджэнне пад кіраўніцтвам намесніка старшыні Віталя Лебедзева і старшыні раённага Савета дэпутатаў Анатоля Мацюліна, на якім была вызначана ініцыятыўная група ў складзе 30 чалавек, якія будуць збіраць подпісы ў падтрымку кандыдатуры Аляксандра Лукашэнкі. Старшынёй ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў прызначана Тамара Мацюліна».

**Паводле сайта «Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

# Колькі ўжо сабралі Караткевіч, Лябедзька і Калякін


Сяргей Гудзілін

**Два тыдні** працягваецца збор подпісаў за патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты.

Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына адрапартавала, што кіраўнік дзяржавы ўжо здаў неабходныя для рэгістрацыі 100 тысяч подпісаў. Аналізаваць, колькі сабралі імаверныя спарынг-партнёры Лукашэнкі (Гайдукевіч, Цярэшчанка і Улаховіч) не выпадае, бо, здаецца, лічбы яны малююць проста з неба.

Сярод тройкі апазіцыйных ініцыятыўных груп найбольш подпісаў сабралі за вылучэнне Таццяны Караткевіч. За яе ўжо сабрана 43 тысячы подпісаў. Кіраўнік штаба Караткевіч Андрэй Дзмітрыеў кажа, што найлепш распісваюцца ў Мінску, Брэсцкай і Віцебскай абласцях. Найгорш — у Мінскай вобласці.

За лідара «Справядлівага свету» Сяргея Калякіна сабрана крыху менш за 20 тысяч подпісаў. «Ніжэй, чым патрэбна, адстаём ад графіка», — шчыра прызнаецца Калякін. Кажа, што паўсюль распісваюцца прыкладна аднолькава. Хіба што ў Гродне і Мінскай вобласці крыху менш.

За старшыню АГП Анатоля Лябедзьку вядома, што сабрана 15 тысяч подпісаў. «З аднаго боку, я канстатую: улада з выбарчай сістэмай прыйшла ў тупік. Цікавасці да выбарчай кампаніі, нават прэзідэнцкай, няма. У людзей не гараць вочы. Яны хочуць пераменаў, але не глядзяць на выбары як на інструмент пераменаў. Тут не адчуваецца непасрэднай сувязі», — адзначыў Лябедзька.

Збор подпісаў працягнецца да 21 жніўня.

**Зміцер Панкавец**

## Вы спыталіся, Ірына, я адказаў

Піша **Анатоль Лябедзька**.



Пакінуць артыкул Ірыны Халіп «Мышы і мерцвякі» («НН», №28—2015) без адказу было б няправільна.

Вам, Ірына, прабачце за шчырасць, пляваць, здымуся я ў гэтай выбарчай кампаніі ці не. Калі б гэта сапраўды Вас хвалявала, то Вы, вярнуўшыся з адпачынку, пацягнуліся б да тэлефоннай слухаўкі, а не да клавіятуры. Гэта ж так лагічна і даступна. Проста сказаць: «Анатоль, давай пагаворым за кубкам кавы». Не ведаеш — спытай, сумняваешся — удакладні! Але тут зусім іншыя мэты, таму ўсё робіцца з дакладнасцю да наадварот.

Калі я кажу, што мы ставім дзве задачы ў гэтай кампаніі (папершае, не дапусціць легітымацыі яе вынікаў без сумленных выбараў, а па-другое, праз вылучэнне эканамічнай альтэрнатывы, праграмы «Мільён новых працоўных месцаў», істотна павялічыць колькасць удзельнікаў палітычнага працэсу), то я нясу адказнасць за сказанае.

Для нас 100 тысяч сабраных подпісаў — гэта не жаданне любым коштам трапіць у бюлетэнь для галасавання, а толькі магчымасць яшчэ паўтара месяца наўпрост працаваць з людзьмі. Магчымасць, якая бывае раз на чатыры-пяць гадоў.

Літаральна першай фразай вызначаны віноўнік усіх праблем: «Анатоль Лябедзька сваім удзелам у «выбарах» можа дамагчыся прызнання Лукашэнкі на Захадзе». А ці не занадта крута, з адгалоскам у нябёсах?! І тут лепш за Віталя Цыганкова не скажаш: «Я б на месцы Анатоля Лябедзькі толькі ганарыўся тымі прэтэнзіямі, якія амаль штодня гучаць у ягоны бок: нібыта ён сваім удзелам спрыяе легітымізацыі рэжыму і вядзе да прызнання выбараў з боку Захаду. Бо ўсе гэтыя абвінавачванні надаюць яму неймаверную палітычную вагу, якая сягае на міжнародны ўзровень. Выяўляецца, усе 8 апазіцыйных кандыдатаў у 2010 не спрыялі «легітымізацыі выбараў»! Выяўляецца, Захад глядзіць толькі на ягоны ўдзел ці няўдзел. Будзе ўдзельнічаць Анатоль — значыць, Захад адразу прызнае выбары. Не будзе — не прызнае. «А як там Лябедзька?» — пытаецца з заміраннем сэрца Меркель у Абамы...»

А што, у 2010 годзе сітуацыя з палітвязнямі была іншая? Але тады Ваша каманда не ставіла нават пад найменшы сумнеў неабходнасць удзелу ў прэзідэнцкай кампаніі. І тады Вас не бянтэжылі ні мышы (колькасць ахвотных паўдзельнічаць набліжалася да 20), ні тое, што большасць зарэгістраваных не сабрала неабходныя 100 тысяч. Што Вамі рухала? Можа, у тагачасных палітвязнях, уключаючы Мікалая Аўтуховіча, маштаб не той быў? Ці Вам не хапала колькасных паказчыкаў? Што тады было не так, як цяпер?!

Усімі сваімі сіламі намякаючы, што я з'яўляюся агентам КДБ, вы спрабуеце паставіць мяне на адну планку з людзьмі, якія Вам блізкія, якія публічна прызналіся ў падпісанні папер. Відавочна, Вам і ў галаву не прыходзіць, што можна, адседзеўшы 108 дзён, не падпісаць ніводнай паперы.

Я не падпісаў ніводнай паперы, менавіта таму мне пасля не давялося падпісваць і паперу аб супрацоўніцтве. Я не даў сябе ўцягнуць у іх гульні. Следства такая штука — калі тэчка пустая, не сказана нічога, не зафіксавана нічога, то напоўніць яе няма чым... Пустую тэчку цяжка перадаваць у суд — тым больш, калі справа мае грамадскі рэзананс.

Ірына, рэжым абавязкова зменіцца, і мы ўсе ўбачым, хто пра што казаў і пісаў. Чакаю гэтага з нецярпеннем і спрабую гэта наблізіць.

*(скарочана)*


Сяргей Гудзілін

**Фотафакт**

**Актыўная фаза выбараў-2015 ідзе ўжо трэці тыдзень. Ініцыятыўныя групы кандыдатаў як могуць збіраюць подпісы. На спёцы і пры дажджы. Сярод зборшчыкаў шмат прыгожых маладых дзяўчат. Самых прыгожых з іх зафіксаваў фатограф «НН» Сяргей Гудзілін, глядзіце на nn.by. На фота: Наталля, географ. Збірае подпісы за Караткевіч у пікеце на Камароўцы.**

**Цытата**



**Ідзі, Рыгоравіч, на «выбары» адзін: сам завёў краіну ў тупік — сам выводзь**

«Рыгоравіч, ідзі на «выбары» адзін — тваё прозвішча самае вядомае, таму што ўсіх астатніх народ наогул не ведае. Завёў краіну ў тупік — выводзь яе! Шчыра прызнайся народу: я завёў эканоміку ў тупік, але я ведаю, як яе вывесці», — сказаў лідар Беларускага прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) Генадзь Фядыніч.

## Генадзь Нявыглас пра зняцце санкцый ЕС: «Малайцы, паразумнелі трохі»

Еўрасаюз адмяніў санкцыі супраць 25 беларускіх чыноўнікаў. Журналіст «Нашай Нівы» датэлефанаваўся да экс-сакратара Рады бяспекі Генадзя Нявыгласа, з якога таксама знялі візавыя абмежаванні.

«Ну і добра! Малайцы! Значыць, крыху паразумнелі ў Еўропе», — сказаў Нявыглас і дадаў, што больш нічога сказаць не можа.

ЕС увёў санкцыі супраць шэрагу буйных лукашэнкаўскіх чыноўнікаў у 2006 годзе праз абвінавачанні ў фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў.

У наступным, з-за ўведзеных санкцый, сп.Нявыгласу давялося пакінуць пасаду ў Беларускай федэрацыі футбола.

**Арцём Гарбацэвіч**

**Таксама санкцыі зняты з:**

Леанід Козік (экс-кіраўнік ФПБ);

Наталля Пяткевіч (экс-намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта);

Анатоль Рубінаў (экс-намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта па пытаннях СМІ і ідэалогіі);

Яўген Полудзень (экс-намеснік міністра ўнутраных спраў);

Леанід Мальцаў (старшыня Памежнага камітэта);

Аляксей Васільеў (кіраўнік Мінскай рэгіянальнай выбарчай камісіі);

Юрый Пракопаў (журналіст «Першага тэлеканала»);

Уладзімір Палуян (экс-міністр па падатках і зборах);

Міхаіл Батура (рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі);

Генадзь Падгайскі (дырэктар Мінскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа);

Сяргей Абламейка (рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта);

Тамара Алпеева (рэктар Міжнароднага гуманітарна-эканамічнага інстытута).

**Санкцыі зняты з суддзяў:**

Андрэя Бараноўскага, Алены Ананіч, Вольгі Гусаковай, Мікалая Балаўнёва, Алены Чарняк, Жанны Дубініной (Роўда), Наталлі Кузняцовай, Алены Лапцевай, Наталлі Меркуль, Лідзіі Целіцы, Наталлі Варэнік, Валянціны Зянькевіч.

# Як беларускія чыноўнікі становяцца мільянерамі

Прыклад міністра энергетыкі **Уладзіміра Патупчыка.**

«Народ павінен ведаць, як жывуць чыноўнікі і іх сваякі, адкуль грошы і ўласнасць у гэтых людзей», — заявіў Аляксандр Лукашэнка. Аднак, насуперак меркаванню кіраўніка краіны, беларускія чыноўнікі не хочуць публікаваць свае дэкларацыі аб прыбытках. Генеральны пракурор Аляксандр Канюк тлумачыць, што «гэта не зусім этычна».

Зрэшты, формула дабрабыту ў высокіх чыноўнікаў падобная. Яшчэ за савецкімі часамі ці на пачатку незалежнасці яны атрымалі першую кватэру. Пасля замянілі яе на больш прэстыжную і прасторную. І нарэшце пабудавалі катэдж у Драздах ці каля іх.

Як працуе гэтая схема? Адсочым на канкрэтным прыкладзе.

Уладзімір Патупчык — адзін з двух дзясяткаў беларускіх міністраў. Ягонае імя згадваецца рэдка, Патупчык адказвае за энергетыку. Гэтае ведамства было на слыху падчас «навагодніх войнаў» з Расіяй, калі ў апошні момант вызначаліся цэны на энерганосьбіты. Цяпер на рынку зацішша, і міністэрства працуе ў нябачным рэжыме.



**Шматпавярховікі абступілі катэдж міністра.**

## Этап назапашвання капіталу

Уладзімір Патупчык нарадзіўся ў 1958-м у Светлагорску. Пасля заканчэння Беларускага політэхнічнага інстытута (цяпер БНТУ) адпрацаваў год у Мазыры, а пасля вярнуўся ў родны Светлагорск. З энергетыкай ён быў звязаны толькі чатыры гады, максімальна ўзняўшыся да пасады загадчыка лабараторыі на ТЭЦ.

А пасля пайшоў па партыйнай і чыноўніцкай лініі. На многіх пасадах Патупчык працаваў тандэмам з Аляксандрам Якабсонам. Быў віцэ-мэрам Светлагорска, які лічыўся «сталіцай наркаманаў», мэрам Мазыра падчас Дажынак, віцэ-губернатарам Гомельшчыны...

У Светлагорску Патупчык меў трохпакаёвую кватэру на вуліцы Пушкіна. Ягоны дом — старая брэжнеўка, пабудаваная яшчэ ў 1970-я.

Пасля пераезду ў Гомель чыноўнік перапісаў жыллё на дачку Ульяну. З улікам цяперашніх цэн на нерухомасць у Светлагорску кватэра Патупчыкаў каштуе каля $35 тысяч.

## Выгадная прыватызацыя

У 2004 годзе Патупчыка перавялі ў Мінск. Спачатку ён стаў памочнікам Лукашэнкі (інспектарам па сталіцы), а праз два гады — міністрам працы і сацыяльнай абароны. Менавіта пад ягоным кіраўніцтвам была адменена большасць ільготаў.

У адпаведнасці з указам «Аб стварэнні спецыяльнага службовага жыллёвага фонду» ніводная з гэтых пасадаў Патупчыка не прадугледжвае выдзяленне службовага жылля. Атрымліваеш немалы заробак — можаш здымаць кватэру ці адкладаць на яе куплю.

Аднак Патупчык нейкім чынам атрымаў кватэру ў доме на вуліцы Беларускай, на беразе Свіслачы.

Першыя жыхары гэтага дома засяляліся ў 2005 годзе. Ім выдаваліся даведкі «аб размеркаванні ізаляваных памяшканняў». Гэта тыповая схема для долевага будаўніцтва. Але ў Патупчыка такой даведкі няма.



**Уладзімір Патупчык**

Нар. 1958 у Светлагорску. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1980) і Расійскую акадэмію дзяржаўнай службы пры прэзідэнце Расіі (2002).

У 1980—1984 працаваў на Мазырскай ТЭЦ, Светлагорскай ТЭЦ і на «Гомельэнерга», у 1984—1990 — у Светлагорскім гаркаме КПБ. У 1990—1998 — намеснік старшыні Светлагорскага савета народных дэпутатаў, намеснік мэра Светлагорска. У 1998—2001 — старшыня камітэта Гомельскага аблвыканкама, у 2001 — мэр Мазыра, у 2001—2004 — віцэ-губернатар Гомельшчыны. У 2004—2006 — памочнік прэзідэнта (інспектар па Мінску). У 2006—2009 — міністр працы і сацыяльнай абароны, у 2009—2010 — віцэ-прэм'ер. У 2011—2012 — віцэ-спікер савета рэспублікі. Ад 2013 — міністр энергетыкі.

Ён прыватызаваў сваю кватэру ў канцы 2007 года, атрымаўшы дазвол першаснага ўласніка — Галоўнага гаспадарчага ўпраўлення Кіраўніцтва справаў прэзідэнта.

Прыватызацыя — гэта набыццё грамадзянамі дзяржаўнага жылля. Колькі давялося заплаціць міністру працы? Трохпакаёўку плошчай больш за 90 м² ацанілі ў 145 мільёнаў рублёў. Па тагачасным курсе гэта было каля $67 тысяч. Такім чынам, квадратны метр каштаваў каля $746.

Ці не замала гэта? У 2007—2008 гадах у Беларусі наз іраўся будаўнічы бум, жыллё ў Мінску падскочыла аж да $2000 за метр. А такая кватэра, як на Беларускай, мусіла каштаваць яшчэ больш за кошт прэстыжнага месца. Выглядае, што міністр атрымаў вялікую зніжку.

Патупчык дагэтуль не мае права цалкам распараджацца кватэрай. Значыцца, плацеж за прыватызацыю не быў аднаразовым, дамова афармлялася ў растэрміноўку. З кожным днём дэвальвацыя «з'ядае» выплаты. Курс даляра з даты пачатку прыватызацыі вырас больш чым у 7 разоў.

У выпісцы Нацыянальнага кадастравага агенцтва няма інфармацыі, на які тэрмін была аформленая ягоная іпатэка. Аднак ёсць пазнака, што спачатку дакументы склалі з памылкамі ў законе «Аб прыватызацыі» і двух артыкулах Грамадзянскага кодэкса.

Па цяперашніх рынкавых цэнах кватэра Патупчыка каштуе каля $180 тысяч.

## Сціплы, але дарагі катэдж

Кар'ера Патупчыка тым часам працягвалаісці ўгару. У 2009 годзе ён стаў віцэ-прэм'ерам па сацыяльных пытаннях. Праўда, ужо на наступны год яго звольнілі з урада, а ў 2011 годзе знайшлі сінекуру — пасаду віцэ-спікера ў савеце рэспублікі.

А ў маі 2012 года Мінгарвыканкам выдзеліў Патупчыку зямлю для будаўніцтва катэджа ў водаахоўнай зоне за «Мінск-Арэнай». Цяпер ягоная вуліца Мястраўская ўваходзіць у склад раёна Ржавец (былая назва Лебядзіны).

Патупчык аказаўся суседам групы банкіраў на чале з Пятром Пракаповічам і Паўлам Калаўрам. Наймаверней, побач будаваўся і беглы кіргізскі прэзідэнт Курманбек Бакіеў.

На ўчастку Патупчыка паўстаў невялікі каменны двухпавярховік з лазняй. Праўда, панарама з вокнаў за час будаўніцтва істотна змянілася. Адразу за плотам Патупчыка разгарнулася будоўля шматпавярховікаў, якія канчаткова закрыюць катэдж ад праспекта Пераможцаў. З балконаў кватэр на высокіх паверхах можна будзе назіраць за жыццём чыноўніка.

Афармляючы дакументы на дом, Патупчык запэўніў рэгістратара, што будаваў катэдж за ўласныя грошы, без прыцягвання льготнага крэдыту.

Кадастравы кошт тых 14 сотак зямлі, якая дасталася яму, складае $225 тысяч. Рынкавую цану рыэлтары могуць назваць толькі наўскідку. Яна крыху ніжэйшая, чым у Драздах, дзе пачынаюць лічыць ад $1 мільёна.

Падчас свайго будаўніцтва Патупчык перайшоў у ранг міністра энергетыкі. Апошні раз ён працаваў у энергетычны галіне трыццаць гадоў таму.



**Дамы на вуліцы Беларускай запомніліся яркай расфарбоўкай.**

**Ягор Марціновіч**

# Расія заблакавала стварэнне трыбунала па гібелі малайзійскага «Боінга»

А хто ж **устрымаўся**?

Расія заблакавала праект рэзалюцыі Рады бяспекі ААН аб стварэнні міжнароднага трыбунала па расследаванні гібелі рэйса МН17 над Украінай.

За — 11 галасоў, устрымаліся трое: Кітай, Венесуэла і Ангола. Расія адзіная галасавала супраць і, як сталы сябар Рады бяспекі, наклала вета.

Як паведамлялася, нідэрландская следчыя схіляюцца да высновы, што пасажырскі лайнер, як і шэраг украінскіх вайсковых самалётаў, збілі з расійскага ракетнага комплексу «Бук».

**Сяргей Гезгала**




**Цытата**



**Краўчанка: «Пуцін мае рацыю»**

«Трыбунал па малайзійскім «Боінгу» не патрэбны, Пуцін абсалютна мае рацыю. А трэба судзіць Клінтана і Блэйра за бамбаванне Бялграда», — сказаў былы міністр замежных справаў Беларусі Пятро Краўчанка ў інтэрв'ю тэлеканалу «Дождь».

# Магілёўскі аблвыканкам: Верш «Клеветнікам Россіі» на помнік не вернем

Намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама Валерый Малашка даў адказ дзеячу рускага руху Беларусі, віцьбічу Андрэю Герашчанку, чаму з бюста Пушкіна ў Магілёве была дэмантаваная пліта з урыўкам з верша «Клеветнікам Россіі».

Малашка піша: «Сапраўды, радкі з верша А. С. Пушкіна «Клеветнікам Россіі» ў XIX стагоддзі мелі просты сэнс і былі адказам паэта на пагрозы Расіі з боку Захаду. У сучаснай сітуацыі, з улікам існавання суверэнных дзяржаў: Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь, пры наяўнасці на іх грамадскапалітычным полі разнапланавых грамадскіх арганізацый, якія адстойваюць інтарэсы груп насельніцтва з рознымі ідэалагічнымі поглядамі, якія немагчыма не ўлічваць, дадзеныя радкі маглі атрымаць розную ідэалагічную інтэрпрэтацыю, не адэкватную афіцыйнай пазіцыі. У сувязі з чым, а таксама на падставе водгукаў, якія з'явіліся ў інтэрнэце на з'яўленне помніка, кіраўніцтвам гарвыканкама было дадзена ўказанне па змене выгляду пастамента».



Бюст Аляксандра Пушкіна быў усталяваны ля бібліятэчнага каледжа ў Магілёве ў пачатку чэрвеня. Гэта быў падарунак ад грамадскай арганізацыі «Алея расійскай славы». Пасля ўсталявання людзі ўгледзеліся, што на пастаменце размешчаныя радкі, якія сёння гучаць прынамсі правакацыйна:

…Иль нам с Европой спорить ново?
Иль русский от побед отвык?..
…Стальной щетиною сверкая,
Не встанет русская земля?..
Так высылайте ж к нам, витии,
Своих озлобленных сынов:
Есть место им в полях России,
Среди нечуждых им гробов…

Адразу пасля гэтага ў інтэрнэце пачала з'яўляцца негатыўная рэакцыя. Напрыклад, літаратуразнаўца-пушкініст Аляксандр Фядута назваў размяшчэнне гэтага верша «нетактоўным».

Ужо праз тыдзень пасля ўсталявання гарадскія ўлады прынялі рашэнне прыбраць шыльду з вершам з помніка.

Прарасійскія арганізацыі Беларусі расцанілі гэты крок як варожы. Удзельнікі прарасійскай канферэнцыі ў Мінску нават звярнуліся да міністра культуры Барыса Святлова.

На адказ Магілёўскага аблвыканкама адрэагаваў яшчэ адзін прарасійскі дзеяч Беларусі Сяргей Шыптэнка, які адказаў гэтак:

«Местачковая свядомасць невука непрыкметна перарастае ў калгасны садызм і правінцыйны вандалізм. [...] Можа быць, пара вярнуцца да выбарнасці ўлады? Можа быць, пара перастаць раскідвацца медалямі Пушкіна? Можа быць, хопіць марнаваць грошы расейскіх падаткаплацельшчыкаў на падтрымку ваяўнічага абскурантызму ў суседняй, фармальна саюзнай рэспубліцы, а на абарону нашай агульнай культурнай спадчыны? Шкада, што негатыўныя працэсы ў Беларусі не атрымалі належнай увагі з боку РАН, шматлікіх НДА. Як бы не праваронілі Беларусь следам за Украінай».

**Зміцер Панкавец**

# Як Лукашэнка даверыў патрымаць сваю кепку старшыні Мінскага райвыканкама

Падчас наведвання Мінскай агароднінная фабрыкі Аляксандр Лукашэнка **здзівіў сваім галаўным уборам**.






Лукашэнка прыехаў на фабрыку ў строгім цёмным касцюме, але ў белай кепцы.

Цікава, што ніхто з чыноўнікаў не адважаўся адзець на сустрэчу кепку ці бейсболку. З пакрытай галавой быў толькі кіраўнік дзяржавы. У кепцы Лукашэнка каштаваў гародніну, хадзіў па полі, ездзіў на камбайне.

Толькі падчас размовы з дырэктарам агароднінная фабрыкі Уладзімірам Парчэўскім кепкі на галаве Лукашэнкі не было. Але аддаў ён яе не ахоўнікам і не паклаў у кішэню. Як паказалі тэлевізійшчыкі, кепку Лукашэнкі ў гэты момант трымаў кіраўнік Мінскага райвыканкама Пятро Ярмаш.

Пятро Ярмаш нарадзіўся ў 1954 годзе ў Морына Іўеўскага раёна. Скончыў Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут (1977). Ад 2007 года — старшыня Мінскага раённага выканаўчага камітэта.

**ЗП**

# Былы палітвязень Эдуард Лобаў ваюе за Украіну

Сустаршыня «Маладога Фронту» Эдуард Лобаў заявіў, што прыехаў ва Украіну, каб «падтрымаць брацкі народ у барацьбе з агульным ворагам».

Эдуард Лобаў — былы палітвязень. За дзень да Плошчы-2010 ён быў прэвентыўна затрыманы разам са Змітром Дашкевічам і асуджаны на чатыры гады зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Прашэнне аб памілаванні не пісаў.

**ЗП**



# Танкавы біятлон у Расіі: адзін танк перакуліўся, другі заглух ад гідраўдару

На спаборніцтвах па «танкавым біятлоне», якія праходзяць у Расіі на падмаскоўным палігоне Алабіна ў рамках першых Армейскіх міжнародных гульняў, **не абышлося без эксцэсаў**.

Падчас трэніроўкі 46-тонны расійскі танк Т-72 перавярнуўся на хуткасці 70 км/г. Шматтонная машына спачатку цалкам перакулілася, а пасля застыла на баку.



За рычагамі танка знаходзіўся экіпаж з Кувейта. «Усе жывыя, абышліся ранамі і ўдарамі», — напісаў расійскі блогер Аляксей Хлопатаў і дадаў, што сам танк «практычна не пацярпеў». Аварыя адбылася 28 ліпеня за некалькі дзён да пачатку спаборніцтваў, якія стартавалі 1 жніўня і скончацца 15-га.

Літаральна за некалькі секунд да гэтага адбыўся яшчэ адзін інцыдэнт — дакладна такі ж танк, Т-72, пад кіраўніцтвам армянскага экіпажа не змог працягнуць трэніроўку пасля таго, як атрымаў гідраўдар — матор машыны проста не вытрымаў такой нагрузкі.

Армейскія міжнародныя гульні — спаборніцтвы сярод вайскоўцаў, якія ўпершыню праводзяцца ў Расіі ў гэтым годзе. Экіпажы з 17 краін, у тым ліку і з Беларусі, выступаюць у 14 конкурсах па палявой, паветранай і марской вывучцы. Спаборніцтвы пачаліся 1 жніўня і працягнуцца два тыдні.

**Зміцер Міцкевіч**

# Украіна арыштавала дамы і рахунак сына Азарава ў Італіі

Пячэрскі суд Кіева арыштаваў італьянскую маёмасць Аляксея Азарава, сына былога прэм'ер-міністра Украіны, які ў цяперашні час **знаходзіцца ў Расіі**.

Паводле паведамлення Генпракуратуры Украіны, гаворка ідзе пра дамы ў горадзе Ольбія (Сардзінія) і рахункі ў банку *Santander*, якія належаць Аляксею Азараву.

«У цяперашні час рашэнне накіраванае для выканання кампетэнтным органам Італьянскай Рэспублікі ў рамках міжнароднай прававой дапамогі пры правядзенні працэсуальных дзеянняў», — заявілі ў Генпракуратуры.

Ва Украіне Аляксея Азарава падазраюць у незаконным узбагачэнні на суму 7,7 млн еўра, 600 тыс. швейцарскіх франкаў і 500 тыс. даляраў. Акрамя таго, Азараў доўгі час знаходзіўся ў санкцыйным спісе Еўрасаюза, аднак у сакавіку стала вядома, што ЕС зняў санкцыі з сына былога прэм'ера Украіны.

Раней, у панядзелак, бацька Аляксея Мікалай Азараў, які знаходзіцца ў міжнародным вышуку, абвясціў на прэс-канферэнцыі ў Маскве аб стварэнні камітэта выратавання Украіны, які выступае за датэрміновыя выбары ва Украіне. У камітэце нават выбралі кандыдатуру на ролю прэзідэнта — Уладзіміра Алейніка, які падазраецца ў арганізацыі незаконнага галасавання ў Вярхоўнай Радзе.

**Бі-бі-сі**

# Хто адкажа на кватэрнае пытанне?

Больш за сотню сем'яў уклалі свае грошы ў будоўлю шматпавярховіка ў Мінску. Але ў выніку людзі засталіся і без грошай, і без жылля. Кіраўніцтва кампаніі-забудоўшчыка арыштавана, а дзяржава, па словах дольшчыкаў, іх ігнаруе.

У 2013 годзе 25-гадовы мінчук Андрэй Босік вырашыў набыць уласнае жыллё. Не так даўно ён ажаніўся, хацелася жыць асобна ад бацькоў. Тым больш, што ў яго была свая аднапакаёўка, якая засталася ад сваякоў. Яе Андрэй прадаў, даклаў яшчэ грошай: нешта было ў загашніку, штосьці пазычыў у сяброў, прадаў машыну. Агулам выйшла $72 тысячы. Андрэй пачаў падшукваць варыянты, спыніўся на доме, будаўніцтва якога вяло ТАА «Валынь».

«Я хацеў, каб гэта быў новы дом, новая кватэра, не другаснае жыллё. Прапаноў па маіх фінансах было не так шмат: Малінаўка і тут, на вуліцы Валгаградскай. Канечне, я выбраў Валгаградскую: добры раён з добрай інфраструктурай», — тлумачыць Андрэй.

Жыллё ў доме, які будавала «Валынь», можна было набыць трыма спосабамі: шляхам долевага будаўніцтва, набыўшы жыллёвыя аблігацыі ці праз дамову пазыкі. Але для ўсіх была адзіная ўмова — унесці 100% перадаплату. Аддаў свае 72 тысячы і Босік. І стаў чакаць.

«Я не быў першым, на той момант было ўжо прададзена ад 50 да 100 кватэр. Прычым амаль усе, хто ўклаў грошы ў тое будаўніцтва, прыйшлі праз знаёмых. То бок асабліва ніхто не хваляваўся, што нешта можа здарыцца, нават нягледзячы на затрымкі».

Затрымкі ж былі выкліканыя тым, што ТАА «Валынь» не магло дамовіцца з жыхарамі катэджаў, якія стаялі абапал будоўлі. Планавалася, што катэджы знясуць і на іх месцы з'явяцца тры шматпавярховыя дамы (у першым з іх Андрэй і хацеў атрымаць кватэру). Але ж прапановы забудоўшчыка не задавальнялі адну з сем'яў, у выніку тэрміны будаўніцтва былі сарваныя. Справа дайшла да суда. Дом, які мусіў быць гатовы яшчэ ў 2012-м, і праз год яшчэ не быў дабудаваны, не кажучы пра ўвод яго ў эксплуатацыю.

Але Босіка гэта не напалохала. Ён з'ездзіў, пагаварыў з той «упартай» сям'ёй, яны пацвердзілі, што нарэшце дамовіліся з «Валынню» і гатовыя з'ехаць, толькі чакаюць, пакуль забудоўшчык з імі разлічыцца. То бок будоўлі ўжо нічога не замінала, таму малады чалавек спакойна аддаў «Валыні» грошы. Праз паўтара-два гады ён планаваў пераехаць у сваю новую кватэру.

Аднак нічога не выйшла.

Увесь 2014 год Босік працаваў — разам са знаёмымі яны адкрылі невялікую фірму, заняліся продажам і абслугоўваннем камп'ютараў. Што там робіцца на будаўнічай пляцоўцы ён не сачыў: быў пэўны, што справа рухаецца.




**Так павінна была выглядаць забудова на вуліцы Валгаградскай...**



**... а так яна выглядае сёння.**




**Адзін з мітынгаў спыніла міліцыя. Людзі не паспелі нават дапісаць заклік на кавалку тканіны, як прыехалі ахоўнікі правапарадку. Міліцыянты сарвалі расцяжку і пагражалі падманутым дольшчыкам артыкулам «За дробнае хуліганства».**

«Я веру, што ўлада так ці інакш сочыць за тым, што там адбываецца. Думаў, нават калі з гэтым забудоўшчыкам «не зрасцецца», дык знойдуць іншага. Гаворка ж ідзе пра будоўлю ў добрым раёне сталіцы, пра мільёны долараў — не можа быць, каб дзяржава не кантралявала такія рэчы», — тлумачыць Андрэй.

Але пакуль ён не сачыў за будоўляй, іншыя кліенты «Валыні» сачылі, прычым вельмі пільна. Яны сцвярджаюць, што ў 2014-м некалькі кватэр прадалі па другім разе (і гэта прытым, што будоўля дома не толькі не скончылася, а ўвогуле спынілася!). Людзі пайшлі па інстанцыях, але без плёну. Па іх словах, усе звароты ў пракуратуру, АБЭЗ, Мінгарвыканкам, Адміністрацыю прэзідэнта скідваліся ў адміністрацыю Першамайскага раёна, якая адказвала, што правяла праверку і парушэнняў не знайшла.

Да таго ж дольшчыкам стала вядома аб продажы актываў ТАА «Валынь» (акцый дачынай арганізацыі ААТ «Зямля інвестыцый») за... дваццаць мільёнаў рублёў. Гэта ва ўмовах і без таго вартага жалю фінансавага стану і немагчымасці будаўніцтва пазбавіла кампанію каштоўных, на думку дольшчыкаў, актываў. Па іх словах, дырэктар «Валыні» раней ацэньваў тыя актывы ў дзесяць мільёнаў долараў.

«З прычыны фактычнай бяздзейнасці органаў фінансавага кантролю тэрмін выстаўлення прэтэнзій па ануляванні здзелкі куплі-продажу актываў ТАА «Валынь» у выглядзе акцый ААТ «Зямля інвестыцый» мінуў без адзінай спробы аднаўлення законных правоў дольшчыкаў у канцы верасня 2014 г. Ніхто не звярнуў увагі і на тое, што продаж трэцяй асобе меў толькі намінальны характар», — кажуць дольшчыкі.

Людзі зразумелі, што праблемы сур'ёзныя. Яны збіраліся на імправізаваныя «мітынгі», запісвалі відэазвароты да кіраўніка дзяржавы. Але нічога не змянялася. На сходах з удзелам адміністрацыі раёна і будучых жыхароў Мікалай Каваленка, дырэктар «Валыні», абяцаў, што становішча хутка выправіцца, расказваў пра перамовы з інвестарамі. Праўда, адказаць канкрэтна, з якімі інвестарамі і аб чым ён размаўляў, Каваленка не мог.

Так цягнулася да вясны 2015 года. Тады кліенты «Валыні» звярнуліся да кіраўніка Камітэта дзяржкантролю Леаніда Анфімава. Менавіта з яго падачы, упэўненыя людзі, у красавіку правялі праверку, па выніках якой дырэктара «Валыні» Каваленку і яго намесніка Собалева арыштавалі і неўзабаве ў дачыненні да іх была распачатая крымінальная справа па ч. 4 арт. 210 КК (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі). Высветлілася, што гора-забудоўшчыкі двойчы прадалі 12 кватэр, скраўшы больш за 3 мільярды рублёў.

«І вось толькі калі кіраўніцтва «Валыні» ўзялі пад варту, я зразумеў, што ўсё, бяда», — прызнаецца Андрэй Босік.

Сёння ён адзін з тых, хто найбольш актыўна змагаецца за інтарэсы падманутых дольшчыкаў. Па яго словах, аддае працы толькі некалькі гадзін, увесь астатні час «займаецца кватэрай»: «Мы лічылі, там было прададзена 107 кватэр са 120. Большасць набывалі людзі сямейныя, з дзецьмі. То бок трыста чалавек проста падманулі, пакінулі ні з чым. Шмат хто прадаваў сваё жыллё, думаў, перачакае год-два на здымнай кватэры. У выніку — ні жылля, ні грошай, — кажа Босік. — За пяць гадоў з двух пад'ездаў па 16 і 19 паверхаў пачалі будаваць толькі адзін, ды і той не дасягнуў і чацвёртага паверха. Кавалак дома стаіць нікому не патрэбны, незакансерваваны. Ужо заўважалі, што на закінутай будаўнічай пляцоўцы пачынаюцца крадзяжы».

Але ўлада не надта ідзе насустрач падманутым кліентам «Валыні», сцвярджае Андрэй. Па яго словах, у адміністрацыі і раёна, і горада прапанавалі дольшчыкам прыдумаць рашэнне іх праблемы самім, а потым прапанаваць яго на разгляд.

«Мы, у прынцыпе, гэта і рабілі. Шукалі інвестараў самі. Але бізнэсоўцы, гатовыя ўкласці свае грошы ў будоўлю, хочуць, каб тую дачынную кампанію «Зямля інвестыцый», якую прадалі за бесцань, вярнулі ў склад «Валыні». І трэба, каб на чале той «Валыні» паставілі антыкрызіснага кіраўніка, які будзе займацца санацыяй кампаніі, а не ліквідацыяй яе, — распавядае Босік. — Але дзяржустановы не зацікаўленыя ў тым, што мы прапануем. Нам адкрыта казалі: «Зямлю інвестыцый» мы не аддамо, не разглядайце такі варыянт. Чаму — ніхто не тлумачыў».

Пісьмовыя звароты ізноў перакідваюцца з усіх устаноў на адміністрацыю Першамайскага раёна, сцвярджае Босік. «А на прыём да чыноўнікаў мы трапіць не можам. Нават калі нас запісваюць, то потым адмяняюць сустрэчу, — кажа ён. — Выходзіць, што ў Адміністрацыі прэзідэнта нас не прымаюць, бо справай нібыта займаецца адміністрацыя раёна. А ў адміністрацыі раёна раяць звярнуцца ў вышэйшыя інстанцыі, напрыклад, у Адміністрацыю прэзідэнта».

Прычым у ідэале трэба зрабіць так, каб будоўлю працягнулі, падкрэслівае Андрэй, а не проста аддалі грошы (хаця пакуль што канкрэтна ніхто не абяцае дольшчыкам ні таго, ні другога). Справа тут у тым, што каля 50 чалавек купілі аблігацыі, і калі ім сёння будуць вяртаць грошы, сума па факце будзе значна меншая за тую, што яны ўнеслі некалькі гадоў таму. Курс долара змяніўся, а кошт аблігацый фіксаваны. Восем мільёнаў каштавала аблігацыя на пачатку будоўлі, але ж 8 мільёнаў у 2012 і 8 мільёнаў сёння — зусім розныя сумы.

Пакуль вырашалася кватэрнае пытанне, у Андрэя нарадзілася дачка. Так яны і жывуць сёння, упяцёх у двухпакаёўцы: у адным пакоі бацькі Андрэя, у другім ён, з жонкай і малым дзіцём. Што будзе далей, Босік не ведае. «Застаецца хіба толькі спадзявацца на цуд», — кажа ён.

**Улад Швядовіч**

Мы звярнуліся па каментары ў адміністрацыю Першамайскага раёна, але там паведамілі, што каментаваць нічога не будуць, і параілі звярнуцца ў Камітэт будаўніцтва і інвестыцый Мінгарвыканкама. Старшыня камітэта Фёдар Рымашэўскі таксама размаўляць не захацеў, сказаў: «Пішыце афіцыйны запыт». Гэты запыт мы напісалі і даслалі. Адказ павінен прыйсці на працягу 15 дзён. Будзем чакаць.

# У бранскім манастыры знойдзена пліта з «Пагоняй» часоў ВКЛ

Гістарычны артэфакт, знойдзены ў **Свенскім манастыры**, нагадаў пра перыяд знаходжання Бранскіх зямель у складзе Вялікага Княства Літоўскага.



Белая каменная пліта з выявай герба ВКЛ выяўленая падчас рэстаўрацыйных работ у манастыры. Знаходка можа датавацца XIV—XV стагоддзем і не падобная ні на адзін з перш знойдзеных помнікаў Сярэднявечча. У тыя далёкія стагоддзі Бранская зямля амаль 150 гадоў уваходзіла ў Літоўскае Княства.

Навуковы свет ужо прызнаў унікальнасць гістарычнай знаходкі, паведамляе ВГТРК «Бранск». Даклад супрацоўніка Бранскага краязнаўчага музея Святланы Нікулінай «Сцянная пліта з выявай герба «Пагоня» са Свенскага Свята-Успенскага манастыра» быў прадстаўлены на міжнароднай канферэнцыі «Пытанні эпіграфікі».

Не выключана, што гісторыкаў і археолагаў чакаюць новыя адкрыцці на тэрыторыі манастыра.

**Лявон Максюта**

# Самы праваслаўны кот жыве ў Гродне

**Культ ката**, інакш і не скажаш, набыў у гарадзенскім манастыры кур'ёзныя, амаль булгакаўскія, формы…




Настаяцельніца жаночага манастыра Раства Багародзіцы матушка Гаўрыіла (Глухава) у Горадні ці не самы публічны прадстаўнік БПЦ. У часы губернатара Саўчанкі казалі нават пра «клуб сяброў» матушкі з ліку дырэктараў і начальнікаў, якія заходзілі ў манастыр «на гарбату».

Пытанне пра манастырскага гадаванца ўпершыню паўстала ў гарадзенцаў у 2008 годзе пасля з'яўлення ў продажы марозіва «Пушок» з выявай белага пухнатага ката і подпісам «...по Благославению патриаршего Экзарха всея Беларуси, Высокопреосвященнейшего Митрополита Минского и Слуцкого Филарета».

Аказалася, Пушок — любімы кот ігуменні Гаўрыілы, а паколькі матушка шчыльна сябруе з гарадскім кіраўніцтвам, у тым ліку дырэктарамі прадпрыемстваў, падобная экстравагантная прапанова з яе боку, хутчэй за ўсё, знайшла водгук у сэрцах кіраўнікоў фабрыкі «Малочны свет», якая выпусціла марозіва...

Пушка фатаграфуюць для манастырскіх паштовак, Пушок ляжыць перад манашкамі на калектыўным фота (на якім падпісаныя толькі матушка і кот, імёнаў манашак няма), у манастыры частуюць гасцей марозівам «Пушок»...

У 2010 годзе Горадню з гастролямі наведваў Юры Куклачоў, які таксама не абмінуў магчымасці сустрэцца з Пушком.

Цікава, што марозіва «Пушок» у гродзенскіх крамах прадаецца і дагэтуль, але ўжо без усялякіх дабраславенняў. Магчыма, новы мітрапаліт не аматар салодкага...

**АК, Гродна**

# Прэс-сакратар Пуціна Дзмітрый Пяскоў узяў шлюб з алімпійскай чэмпіёнкай Таццянай Наўкай

На вяселлі ў яго пабачылі гадзіннік цаной **670 тысяч даляраў**.

Вяселле адбылося ў Сочы, у адным з самых дарагіх гатэляў «Радзіма», куды былі запрошаныя дзясяткі гасцей, у тым ліку і прэзідэнт Уладзімір Пуцін, паведамляе РІА «Новості».

Для фігурысткі Таццяны Наўкі, якая выйграла залаты алімпійскі медаль у італьянскім Турыне ў 2006 годзе, гэты шлюб стаў ужо другім. Першым яе мужам быў чэмпіён свету ў фігурным катанні Аляксандр Жулін. Разам з мужам Наўка пражыла некалькі гадоў у ЗША, аднак потым вярнулася ў Расію, не атрымаўшы амерыканскі пашпарт. Пасля дзесяці гадоў шлюбу Наўка і Жулін абвясцілі пра развод.

Пяскоў жаніўся ў трэці раз. Ад двух папярэдніх шлюбаў у яго нарадзілася чацвёра дзяцей — тры сыны і дачка.

У Наўкі і Пяскова ў 2014 годзе нарадзілася агульная дачка Надзея.

Расійскі апазіцыйны палітык Аляксей Навальны звярнуў увагу, што падчас вяселля на руцэ Дзмітрыя Пяскова быў гадзіннік *Richard Mille* коштам 670 тысяч даляраў. Пяскоў стаў апраўдвацца, што яго яму падарыла жонка, і не адзець гадзіннік на вяселле ён не мог. Праўда, на фотках двухмесячнай даўніны прэс-сакратар Пуціна быў з гэтым самым гадзіннікам.

Адметна, што супраць Пяскова апалчыліся нават штатныя каментатары на прапагандысцкім рэсурсе *Lifenews*.

**ЗП**





# Марк Цукерберг і Прысцыла Чан чакаюць дзіця пасля трох выкідышаў

Пара ўжо ведае пол дзіцяці: яны стануць бацькамі дачкі. Пры гэтым Цукерберг прызнаўся, што яны спрабуюць завесці дзіця ўжо «пару гадоў», і тройчы цяжарнасць скончылася выкідышам.

«Вы поўныя надзеі, калі даведаецеся, што ў вас будзе дзіця. Вы пачынаеце ўяўляць, кім ён стане, і марыць аб яго будучыні. Вы будуеце планы, і ў адзін момант усе сканчаецца. Гэты вопыт звязаны з адзінотай. Большасць людзей не абмяркоўвае выкідышы: вы турбуецеся, што вашыя праблемы прывядуць да адчужэння ці яшчэ неяк паўплываюць — быццам з вамі нешта не так ці вы справакавалі гэта сваімі дзеяннямі. Вы перажываеце гэта самі па сабе», — піша ён у сацсетцы.

Але калі яны вырашылі распавесці аб сваіх цяжкасцях сябрам, высветлілася, што многія з гэтым сутыкаліся і амаль ва ўсіх у выніку нараджаліся здаровыя дзеці. Цяпер пара спадзяецца, што іх вопыт дапаможа набыць надзею тым, хто аказаўся ў такой жа сітуацыі, і дапаможа ім не перажываць гэта ў адзіноце.

«Добрая навіна — што наша цяжарнасць ужо на досыць познім тэрміне, і рызыка страты дзіцяці вельмі маленькая, мы поўныя надзеі», — напісаў Цукерберг

**Бі-бі-сі**

Меркаванне

# Не наша гадавіна



**Анатоль Сідарэвіч** пра 1000-годдзе з дня смерці князя Уладзіміра.

Ва Украіне і Расіі адзначаюць чарговую гадавіну хросту Русі і ўшаноўваюць 1000-годдзе з дня смерці кіеўскага князя, святога і роўнаапостальнага Уладзіміра. Святкуюць і ўшаноўваюць не толькі праваслаўныя і грэка-каталікі, ушаноўваюць і «праваслаўнутыя» палітыкі кшталту Уладзіміра Пуціна, якога маскоўскі патрыярх Кірыл параўнаў з Уладзімірам Святаславічам.

Надзіва трапнае параўнанне! Каб панаваць у Кіеве, ноўгарадскі князь Уладзімір спаліў Полацк, забіў князя Рагвалода і яго сыноў, гвалтам узяў сабе ў жонкі (а жонак і наложніц у яго была процьма) князёўну Рагнеду; у Кіеве ён забіў роднага брата Яраполка і жорстка расправіўся з тымі, хто выступіў супраць яго.

Ці не нешта падобнае робіць «Уладзімір Маскоўскі» дзеля таго, каб трымаць у сферы «расійскіх інтарэсаў» Кіеў і ўсю Русь-Украіну?

Гэтая гадавіна адзначаецца ў Беларусі пераважна ў сценах праваслаўных храмаў. І гэта натуральна. Было б па меншай меры нонсэнсам, калі б беларусы публічна, на афіцыйным узроўні ўшаноўвалі памяць забойцы Рагвалода і Рагвалодавічаў. Дый цяжка згадзіцца беларусу, нават хрысціяніну, што актам хросту з забойцы змываецца кроў — ну, няхай не родных яму полацкіх князёў, а брата Яраполка. І цяжка адмахнуцца ад пытання: чаму Уладзімір — роўнаапостальны? Хто з апосталаў быў да хросту мнагажэнцам, хто з іх быў забойцам?

Чарговая гадавіна хросту Русі-Украіны, асабліва ж 1000-годдзе з дня смерці Уладзіміра, якога ва Украіне і Расіі называюць Вялікім, паказвае, што ў нашых паўднёвых і ўсходніх суседзяў свая гісторыя, а ў нас — свая, у нашых суседзяў свае героі і пакутнікі, а ў нас — свае. У гэтыя дні як ніколі пацвярджаецца тая ісціна, што народ, нацыя — гэта супольнасць людзей з супольнай гісторыяй.



# Фрысбі прызнаны Міжнародным алімпійскім камітэтам

Але гэта пакуль не значыць, што ў **«лятаючую талерку»** будуць гуляць на Алімпіядах.

МАК прызнаў Сусветную асацыяцыю лятучага дыска (*WFDF*). Прызнанне значыць фінансавую падтрымку спаборніцтваў і развіцця спорту з боку МАК. Але за тое, каб правесці спаборніцтвы па фрысбі на Алімпіядзе, прыйдзецца пазмагацца з іншымі відамі спорту, што набіраюць папулярнасць.

*WFDF* была заснаваная ў 1985 годзе, уласна гульня ў фрысбі пачала набіраць папулярнасць у ЗША з 1960-х. Сёння *WFDF* праводзіць чэмпіянаты па *Ultimate Frisbee*, *Beach Ultimate* і іншых варыянтах гульні ў фрысбі, прадстаўляе спорт у 58 краінах. У Беларусі гэты від спорту набывае таксама ўсё большую папулярнасць.

**Аляксандр Арсёнаў**

# Беларусь трапіла ў лік найгоршых краін па гандлі людзьмі і эксплуатацыі працы

**Праз суботнікі** і «дармаедаў».

Дзярждэпартамент ЗША апублікаваў даклад аб эксплуатацыі працы і гандлі людзьмі ў розных краінах свету. У ім Беларусь перамясцілася з «другой групы пад наглядам» у трэцюю, найгоршую ў свеце.

Ад 2011 года беларусы становяцца ахвярамі эксплуатацыі працы часцей не за мяжой, а на радзіме, кажуць у дакладзе. Да таго ж краіна ў галіне барацьбы з гандлем людзьмі «не адпавядае мінімальным стандартам і не робіць значных высілкаў па выпраўленні гэтага».

Адзначаюцца «спансаваныя дзяржавай» прымусовыя працы на суботніках, «падатак з дармаедаў», адсылка вучняў і студэнтаў на сельгасработы ды вайскоўцаў на невайсковыя задачы, прымусовыя працы падчас «лекавання» алкагалізму і наркаманіі, умовы прымусовай працы ў турмах, «прыгонны» дэкрэт па дрэваапрацоўчай прамысловасці 2012 года ды многія іншыя недапушчальныя па міжнародных стандартах з'явы. Адзначаюцца і недастатковыя, «дэкларатыўныя» высілкі па барацьбе з гандлем людзьмі ды адсутнасць прававога механізму абароны яго ахвяр.

Мы ўвайшлі ў лік 23 найгоршых у свеце краін па прымусовай працы і гандлі людзьмі. Мы поруч з Расіяй, Паўночнай Карэяй, Тайландам, Венесуэлай, Іранам, Лівіяй, Сірыяй, Алжырам, Еменам, Зімбабве, Паўднёвым Суданам, Цэнтральна-Афрыканскай Рэспублікай і іншымі.

Прэзідэнт ЗША мае права ўвесці супраць «чырвоных» краін санкцыі, не звязаныя з гуманітарнай і гандлёвай супрацай.

**Аляксандр Арсёнаў**




**Фотафакт**






**Абрысы Беларусі на гербе ў Доме прэсы нагадваюць межы БНР**

«Беларускі герб у прэс-руме Дома прэсы натхняе на нацыяналістычны лад. Задзьмулі вятры тэрытарыяльнага рэвізіянізму!» — піша рэдактар газеты «Беларусы і рынак» Тарас Тарналіцкі на *Facebook*.

## Алімпіяда-2022 пройдзе ў Пекіне

31 ліпеня ў малайзійскім Куала-Лумпуры прайшло галасаванне за месца правядзення зімовай Алімпіяды — 2022. На права правядзення Гульняў прэтэндавалі толькі два гарады — Пекін і Алма-Ата.

Перад гэтым са змагання зняліся Кракаў, Львоў, Осла і Стакгольм. У выніку месцам правядзення 24-й зімовай Алімпіяды быў абраны Пекін. Гульні адбудуцца ад 4 да 22 лютага. Варта адзначыць, што ў Пекіне адбывалася летняя Алімпіяда 2008 года.

Наступныя ж зімовыя Гульні пройдуць у 2018 годзе ў паўднёвакарэйскім Пхёнчхане.

**ЗП**




## Іспанка, якая піша па-беларуску, выдала ў Мінску зборнік вершаў



Анхела **Эспіноса Руіз** праз мову Купалы і Коласа «спрабуе адшукаць сябе».

22-гадовая паэтка пачала пісаць вершы на іспанскай мове з 6 гадоў. Пазней у яе з'явіліся творы на англійскай і французскай. Цяпер ёсць нават адзін верш па-ўкраінску. Беларускую мову іспанка вывучае ад 2013 года.

Паэтка нарадзілася ў Малазе. Усё жыццё жыве побач з морам і з маленства грае на піяніна. «Нават калі я пішу верлібрам, шукаю заўжды музыку ў вершах. Для мяне музыка — вельмі важная частка жыцця».

Анхела шмат вывучала беларускую паэзію. З класікаў асабліва ёй падабаюцца Купала, Багдановіч, Геніюш. З больш сучаснай паэзіі — творы Барадуліна. Таксама падабаюцца вершы Міхаіла Баярына, Аляксея Арцёмава.

«Я лічу, што беларуская мова вельмі мілагучная і добрая для складання вершаў. Я гэта адразу заўважыла. Я ведаю недзе 9—10 моў. Ёсць мовы, на якіх я магу лёгка пісаць вершы, а ёсць — на якіх не. А па-беларуску выходзіць вельмі натуральна».

Анхела Эспіноса Руіз пакуль не ведае, ці будзе перакладаць гэтыя вершы на іспанскую, «але ўжо шмат хто цікавіцца».

**«Еўрарадыё»**

## Памылак стане менш: Microsoft Office займеў беларускамоўную праверку арфаграфіі

Самы папулярны ў свеце пакет офісных праграм *Microsoft Office* займеў беларускамоўны інтэрфейс.

«Файл», «Галоўная», «Уставіць», «Распрацоўка» — гэтыя каманды карыстальнікі з Беларусі цяпер могуць даваць на роднай мове.

Моўны пакет даступны для самай новай праграмы, Office 2016, азнаямляльную версію якой можна бясплатна спампаваць на сайце *Microsoft*. Дадаць патрэбны моўны пакет можна пасля ўсталёўкі *Office*.

Файл уключае ў сябе таксама беларускамоўную праверку арфаграфіі, якая дапамога карыстальнікам выпраўляць памылкі і абдрукоўкі.

**ЯМ**

## У Беларусі з'явіўся «вышываны» зефір

Фабрыка «Красный пищевик» кладзе ў каробкі з ласункам «шпаргалкі», у якіх на рускай і англійскай мове растлумачана значэнне ўзораў нацыянальнага арнаменту.

«Задума зрабіць штосьці з сімволікай беларускіх узораў была даўно, — распавяла *kyky.org* спецыяліст ААТ «Красный пищевик» Аксана Сысой. — На пачатку гэтага года зацвердзілі ўпакоўку новай лінейкі зефіру — *zefir.by* — з нацыянальнымі ўзорамі».

«Калька ў скрыны першапачаткова была звычайная. Але людзі пачалі пытацца: а што гэтыя ўзоры азначаюць? Тады мы зрабілі на кальцы тлумачэнне.




Хацелі данесці, што кожны ўзор — не проста так. Бо не кожны беларус — не кажучы ўжо пра гасцей нашай краіны — ведае пра іх значэнне. А цяпер людзі хочуць пра гэта ведаць!» — сказала прадстаўніца фабрыкі.

**Belsat.eu**

**Кіно**

## Як пазбегнуць смерці

Не ў сабе
**Жанр:** фантастыка, трылер
**Рэжысёр:** Тарсем Сінгх
**У ролях:** Раян Рэйнальдс, Бен Кінгслі, Наталі Марцінес, Мэцью Гуд, Віктар Гарбер, Дэрэк Люк, Джэйні-Лін Кінчэн, Мелаора Хардзін, Мішэль Докеры
ЗША, 117
**Адзнака:** 6

Бізнэс-магнат і мільярдэр Дэміян Хейс (Бен Кінгслі) — гаспадар свайго ўласнага сусвету, але ў 50 гадоў яму паставілі страшны дыягназ — рак. Нечакана ён знаходзіць візітоўку арганізацыі, якая абяцае яму выратаванне. Дэміян звязваецца з прафесарам Олбрайтам (Мэцью Гуд), які расказвае яму пра радыкальную медыцынскую працэдуру, так званы шэдзінг, пасля якой яго свядомасць перадасца ў штучна выгадаванае здаровае цела. Дэміян ідзе на гэта, прыспешнікі Олбрайта дапамагаюць яму арганізаваць уласную публічную смерць. Прафесар праводзіць працэдуру перадачы свядомасці, і Дэміян прачынаецца ў новым целе (Раян Рэйнальдс). Олбрайт дапамагае адаптавацца да цела і загадвае прымаць лекі, каб прытупіць яркія галюцынацыі, якія, як ён сцвярджае, з'яўляюцца пабочным эфектам.

Рэжысёр індыйскага паходжання, які праславіўся ў 1991 пастаноўкай кліпа *R.E.M. Losing My Religion*, Тарсем Сінгх зняў нетыповы для сваёй творчасці трылер. Вядомы яскравымі казачнымі стужкамі, рэжысёр узяўся за навукова-фантастычны сюжэт, дадаўшы боек і сцэн з аўтамабільнымі катастрофамі. Здымкі праходзілі ў Новым Арлеане, дзе Дэміян у іншым целе спрабуе пачаць новае жыццё.

Сюжэт другасны і не раз выкарыстоўваўся ў кіно, але цікавыя ідэі, узятыя за аснову, можна было б выцягнуць у неблагую фантастыку, якой




фільм прыкідваецца першыя 20 хвілін. Але ў Сінгха не атрымалася ператварыць стужку і ў якасны баявік, а для добрай фантастыкі не хапае глыбіні і прадуманасці. Драматычныя моманты выглядаюць непераканаўча, часам пагражаючы скаціцца ў трэш.

**Настасся Уласава**

# Уладзімір Някляеў: Хто здаўмеўся над замкам у Крэве будаваць ферму?

Не так даўно ў Крэве, сакральным месцы беларускай гісторыі, на Мілідаўскай гары бліз раздарожжа, што завецца Крыжамі, былі пастаўленыя два ветракі. «Нарэшце! — падумаў я, упершыню іх убачыўшы і не надта ўнікаючы ў тое, хто і дзеля чаго іх паставіў. — Экалагічна чыстая энергія! Усё ж паціху рухаемся ў Еўропу...»

Аказалася, як лезлі, гэтак і лезем у іншае месца. За ветракамі — укапаныя ў зямлю бетонныя слупы. Ферму будуюць! Унізе, пад гарой, Крэўскі замак, гісторыя Айчыны. Царква, касцёл, могілкі. А над усім гэтым — ферма!

Госпадзі! Скуль узялося ў беларускім свеце столькі поскудзі, якая зневажае ўсё святое?Ператварае зямлю, на якой продкі стагоддзямі ўзводзілі замкі і храмы, у свінарнік?..

А вы, беларусы, праваслаўныя і каталікі, масульмане ды іудзеі, як гэта ўспрымаеце? Моліце Госпада, каб пакараў злыдняў? А Ён не спяшае. Ён мяркуе, што і так дастаткова для вас зрабіў. З Ягонай ласкі займелі вы тое, што продкі вашы, стваральнікі Вялікага Княства Літоўскага, здабылі праз вялікую кроў і ахвяры: сваю дзяржаву. І Бог не ведае, што яшчэ вам даць? Бо ўсё астатняе, у тым ліку права на тое, каб быць гаспадарамі на сваёй зямлі, людзі здабываюць самі. Як хлеб свой надзённы.

Крэўскі замак у жахлівым стане. Пра рэстаўрацыю (на захаванне спадчыны няма, як заўсёды, грошай) гаворкі не йдзе. Хоць бы закансерваваць сцены, рэшткі Княжай вежы. Спыніць разбурэнне.


ВІКТАР МАЛЫШЧЫЦ

Беларускае неба над Крэўскім замкам.

Ветракі каля сцен замка.

Ферму ставяць адразу за ветракамі.

Днямі міністр культуры ў Крэва завітаў, абяцаў. Казаў пра развіццё турызму. Якога? Экстрэмальнага? Пры газавых атаках?..

Што ж, да газавых атак Крэву не звыкаць. Першая была праведзеная ў 1915 годзе якраз «турыстамі». Нямецкімі. Праз сто гадоў развіццё айчынных тэхналогій дасягнула такога ўзроўню, што можам газануць самі... Тым больш што дазваляе культура.

**Уладзімір Някляеў**

**У моўную скарбонку**

## Пра беларускую назву літоўцаў

Беларусы жывуць у атачэнні ў асноўным славянскіх народаў і толькі на паўночным захадзе сутыкаюцца з балцкімі народамі (літоўцамі і латышамі). Доўгі час нашы продкі мелі слабую этнічную самасвядомасць, але адрозніваліся сябе ад суседзяў, якім давалі розныя этнонімы. Даўней не было афіцыйных назваў народаў, і таму гэтыя назвы не супадаюць з цяперашнімі.

Шырока вядома, што сучасных палякаў некалі называлі «ляхамі», а расейцаў — «маскалямі»... Пэўна ж, павінна была быць і назва суседзяў-балтаў, якія больш значна розніліся ад беларусаў і якія, дарэчы, называлі беларусаў сваім словам — «гуды».

Цяпер у беларускай публіцыстыцы існуюць розныя варыянты назвы паўночна-заходніх суседзяў — «летувісы» (адпаведна іх саманазве), «жамойты» (ад назову іх гістарычнай вобласці на захадзе Літвы) або «літоўцы» (як у Расіі)... Але як жа сапраўды называлі іх раней нашы продкі? Аказваецца, ніводным з гэтых варыянтаў!

Слоўнікі і этнаграфічныя запісы даюць іншы назоў — «ліцвя́к» і «ліцвякі».

От прыклады, узятыя са «Слоўніка беларускіх гаворак Паўночна-Заходняй Беларусі», слоўніка І. Насовіча і этнаграфічных запісаў:

— «І ліцвякé адзін другога не панімаюць». (Гродзенскі р-н)

— «Старыя гаварылі па-літоўску. Мой бацька быў чысты ліцвяк, а мяне ўжо можна прадаць палітоўску, нічога не панімаю». (Памежжа з Літвой)

— «Пры лецьвякóх жывём. Была пры лецьвякóх». (Ст.Трокі)

— «Літвякí па-нашаму не гаворуць». (Магілёўшчына)

Думаю, варта вярнуць гэтую беларускую назву суседзяў, бо ні «жамойты», ні «літоўцы», ні «летувісы» не ёсць беларускімі назвамі.

Дарэчы, выкарыстоўваў гэты этнонім і наш класік Янка Купала:

— «З адной стараны йшоў Паляк,
А з другой — шоў Ліцьвяк....»
(Байка "Лякарства" 1909 г.)

**Аляксей Бруй, Гарадзея**

**Вершаваным радкам**

Рыгор Шэрда

## Тост за Волю

За Волю падымаю келіх свой,
Бо ў нас яе — як сонца ў лістападзе.
Балотны, цьмяны, здрадлівы застой!
А ўладзе нібы плацяць
за бязладдзе!..

І пан тут разумее, і мужык,
Што змены — наш адзіны
шлях з нядолі.
Мы дваццаць год пісалі чарнавік!
Няўжо, мае шаноўныя, ніколі?!..

І гэты ж тост — за Правы і Закон,
Каб мы нарэшце выпрасталі спіны.
Хай лукашызм, як недарэчны сон,
У рэдкія адыдзе успаміны.

Не назаву я «выбарамі» шоу,
Што зладзілі аплачаныя мімы.
І ўсё-такі час выбару прыйшоў.
Я выбіраю Волю для Радзімы.

**Ад рэдактара**

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе факты парушэння вашых правоў, нявыплату заробкаў, несправядлівасці. У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы наракanні павінны быць законнымі і справядлівымі.

Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**

**e-mail: nn@nn.by.**

**Факс: (017) 284-73-29**

**Skype: nashaniva**

**Сітуацыя**

## Я таксама з беларускіх

– Добрый день, Вам звонят из компании «Ивент Тайм». В прошлом году Вы у нас участвовали в развлекательных мероприятиях. На этих выходных мы снова организуем мероприятие. Вы бы хотели поучаствовать? – дзяўчына бадзёра прамовіла ў мабільны тэлефон.

– Нет, спасибо, – пачуўся знаёмы адказ незадаволеным голасам.

– Ясно, спасибо. Хорошего вечера! – яшчэ адна завучаная рэпліка.

Звычайная справа – пратэлефанаваць усю кліенцкую базу, калі не набіраецца ўдзельнікаў на мерапрыемства. Камусьці трэба нагадаць, кагосьці зацікавіць, а хтосьці расчараваўся і не прыйдзе ў любым выпадку. Тут нічога не зробіш. Справа, вядома, дурацкая, магчыма, і не вельмі эфектыўная. Але тут усе так робяць.

– Добрый день, – яшчэ адзін званок. Колькі ж іх засталося!

– Здравствуйте.

– В прошлом году Вы участвовали... – Нудоцце якое! Усё роўна шмат людзей адсюль не назбіраеш. Нейкія неэфектыўныя спосабы працы ў гэтай фірме. Я б сама такое ніколі не рабіла.

– А так, памятаю. Мы спаборнічалі ў валейбольным турніры.

Што-што? А я ж думаю, чаму ў базе кантакт і назва фірмы запісаны па-беларуску.

– Да, действительно. И на этих выходных будет еще один турнир, – мабыць, трэба было таксама па-беларуску?

Азірнулася. У кабінеце яшчэ было занадта шмат людзей.

– Возможно, Вы бы хотели принять участие?

– На жаль, на гэтых выходных узяць удзел не атрымаецца.

Блін, ну я ж таксама пабеларуску люблю! Трэба нешта сказаць. Трэба неяк даць знаць, што я таксама з беларускіх.

Калегі працавалі ціха. Кожнае слова было б чуваць.

– Жалко. Ждём на следующих турнирах. Хорошего вечера.

– Дзякуй. Абавязкова. І вам!

Кнопка з чырвонай трубкай. Пазначыла ў спісе, што і гэтай кампаніі не будзе.

І гэта я сама ці не сама?

**Вераніка Ляўчук**

**Прыватныя абвесткі**



**Віншуем**

Віншуем Аляксея Фралова і Людмілу Лёгкую з узяццем шлюбу і зычым шчасця, здароўя, шмат дзяцей і ўнукаў! Сябры

**Малады спецыяліст шукае работу html-вярстальшчыка**

Малады спецыяліст шукае работу html-вярстальшчыка (ці іншай сумежнай прафесіі).

Маецца веданне html, css, javascript, jquery (на ўзроўні прывязкі скрыптоў, наладоўкі пад сябе, унясення правак у код), bootstrap (пачатковы ўзровень) і less. Больш падрабязную інфармацыю і спасылкі на прыклады гатовы даслаць на ваш e-mail.

**e-mail: kiniales@tut.by**

# Так кахаў, што задушыў



З САЦЫЯЛЬНЫХ СЕТАК.

Кацярына знікла ў канцы мінулага тыдня: у пятніцу сышла з інтэрнацкага пакоя на сталічнай вуліцы Варвашэні і не вярнулася. Дзяўчыне было 24 гады, працавала. Бацькі перажывалі. А калі ў панядзелак яна не выйшла на працу, звярнуліся ў міліцыю. І Кацярыну знайшлі. Толькі замест жывой і здаровай дачушкі бацькам паказалі труп для апазнання.

«Праваахоўнымі органамі была даказаная датычнасць да знікнення дзяўчыны яе знаёмага, 1987 года нараджэння. Выявілася, што малады чалавек, знаходзячыся па месцы свайго жыхарства ў Мінскім раёне, у выніку сваркі, што ўзнікла на глебе рэўнасці, задушыў пацярпелую. Пасля чаго на аўтамабілі вывез труп у лясны масіў у Бешанковіцкі раён Віцебскай вобласці і закапаў», — паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці Таццяна Беланог. У мінскай міліцыі ўдакладняюць, што цела каханай малады чалавек закруціў у прасціну і спакаваў у дарожную сумку перад тым, як вынесці труп у машыну. Падазраваны з'яўляецца грамадзянінам Таджыкістана. Кватэру меў у пасёлку Сенніца пад Мінскам.

Кацярына жыла ў інтэрнаце ААТ «МАЗ». Яе труп знайшлі 1 жніўня паблізу вёскі Сініцы Бешанковіцкага раёна.

«Гэта яе хлопец. Ён вёз Кацю дамоў да маці і задушыў...» — расказала падрабязнасці былая аднагрупніца дзяўчыны. Нібыта нараніцу хлопец збіраўся адвезці дзяўчыну ў Віцебск, але выехаць не паспелі, як пасварыліся.

«Яна аднавілася на 4 курсе і трапіла да нас у групу. Працавала і вучылася аднačасова. Добрая і чуллівая была... Шчыры чалавек: і пасмяецца, дзе трэба, і паматчыць. Ціхоня крыху. Па размеркаванні трапіла на МАЗ. Год ужо, як скончылі ўніверсітэт. Яна паўсюль хацела паспець. У яе быў малады чалавек — не беларус. Але была з ім шчаслівая, кахала. Толькі ён моцна раўнівы быў. Ёй бы яшчэ жыць і жыць», — уздыхае дзяўчына.

Кацярына прыехала ў сталіцу з Віцебска. Тут скончыла Беларускі тэхналагічны ўніверсітэт. Праўда, з другой спробы: была адлічана за непаспяховасць, а пасля аднаўлялася. Па адукацыі — інжынер-хімік-тэхнолаг. У Мінску і закахалася.

Іншая сакурсніца Кацярыны прыгадвае, што яна «была ўраўнаважаным чалавекам. Ніякіх сталічных замашак, якія ёсць у многіх студэнтаў, хто прыехаў у Мінск, у яе не было. З ёй заўжды было пра што пагаварыць. Светлы чалавек, заўжды ўсміхалася».

Крымінальная справа заведзена па факце забойства.

**Сяргей Макарэвіч**

# Заваёўнік дамскіх сэрцаў са Смаргоні трапіў у гісторыю

На гэты раз **крымінальную**.

Былы ўдзельнік папулярнага расійскага тэлепраекта «Дом-2», 28-гадовы ўраджэнец Смаргоні Сяргей Січкар апынуўся за кратамі. Справа звязана з крадзяжом. Зорка расійскага ТБ трапіўся на мінскіх дарогах.

«Кваліфікацыю дакладную пакуль не можам сказаць — расследаванне ў самым разгары. Мы даём кароткі каментар: крымінальная справа ў адносінах да яго звязана з крадзяжом маёмасці. Ён узяты пад варту», — паведаміў прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінску Аляксандр Герасімаў.

Расійскія СМІ сцвярджаюць, што нібыта Січкар падчас аднаго з выкраданняў машыны трапіў у аб'ектыў камеры відэаназірання. Пасля чаго яго і затрымалі. А ў цэлым гаворка вядзецца пра чатыры скрадзеныя аўто. Сябры ж лічаць, што малада чалавека падставіў прыяцель.

Сяргей Січкар скончыў юрыдычны факультэт БДУ. Паспеў папрацаваць юрыстам і фітнэс-інструктарам, перад гэтым прафесійна займаўся спортам. Ён з'яўляецца майстрам спорту па шматбор'і, кандыдат у м.с. па гіравым спорце, баскетболе. А пасля паехаў скараць Маскву. На скандальным тэлепраекце «Дом-2» беларус выйграў аўтамабіль у конкурсе «Чалавек года». Пасля сыходу з праекта стаў вядучым і шоўменам.

«Цяпер гэты хлопец знаходзіцца ў СІЗА, куды яго змясцілі беларускія праваахоўныя органы па падазрэнні ў крадзяжы 4 аўтамабіляў. Гледачы былі здзіўлены падобным паведамленнем, бо для многіх з іх малады чалавек заўжды здаваўся законапаслухмяным і прыстойным. Вось і Аляксандра Скарадумава [каханка Сяргея па «Доме-2»], якая пражыла з ім некаторы час, не верыць у гэтыя абвінавачванні», — інфармуе сайт расійскага тэлепраекта, які адсочвае лёсы сваіх былых удзельнікаў.

У залежнасці ад абставін крадзяжу Січкару можа пагражаць да дванаццаці гадоў калоніі.

**СМ**



З САЦЫЯЛЬНЫХ СЕТАК.

**Вышук**



**Знік з машынай**

35-гадовы Аляксандр Асанаў выехаў на машыне з Мінска ў Рагачоў 15 мая і знік. Прыкметы: рост 170—175 см, валасы цёмныя, на падбароддзі ёсць вялікая радзімка. Калі ведаеце месцазнаходжанне Асанава, звяртайцеся на: (017) 226-20-89, (029) 117-61-87.



**З'ехаў у Маскву**

Аляксей Густыр у верасні 2014 выехаў з Гродна ў Маскву, пасля чаго кантакт з роднымі знік. Калі нехта валодае інфармацыяй пра Густыра, звяртайцеся на (0152) 72-42-51.

# Камера зняла, як мінчук на вуліцы парэзаў прыяцеля

А перад гэтым, магчыма, **згвалтаваў жанчыну**.

Усё пачалося са званка ў хуткую дапамогу а 6 раніцы 30 ліпеня. Прасілі дапамагчы маладому чалавеку на прыпынку грамадскага транспарту на сталічнай вуліцы Аранскай: маўляў, яму кепска. Калі прыехалі медыкі, на целе хлопца ўбачылі некалькі нажавых раненняў. Забралі ў бальніцу, дзе ён і сканаў.

Момант панажоўшчыны трапіў у аб'ектыў камеры на вуліцы. За яго ўхапіліся аператыўнікі і затрымалі 25-гадовага мінчука, раней судзімага. Яго і падазраюць у забойстве.

Як паведамілі ў сталічнай міліцыі, выявілася, што напярэдадні маладыя людзі выпівалі, затым ноч правялі за гульнявымі аўтаматамі. Пасля накіраваліся ў бок вуліцы Маякоўскага, адкуль меркавалі сесці на аўтобус дадому. Аднак паміж прыяцелямі ўсчалася сварка, падчас якой адзін парэзаў другога.

Цяпер затрыманага правяраюць на датычнасць да нападу на жанчыну ў тую ж раніцу — за дзве гадзіны да забойства. Непадалёку ад месца панажоўшчыны, на вуліцы Ульянаўскай, адбылося згвалтаванне.



За забойства мінчуку пагражае ад 6 да 15 гадоў калоніі.

**Кастусь Матушыч**

## Сцісла

### Утапіла абаіх дзяцей

У Следчым камітэце раскрылі падрабязнасці смерці малых дзяцей у Гомелі. Выявілася, што 25-гадовая мама купала ў ванне двухгадовага сына. Нешта ў яе «перамкнула» ў галаве, і яна апусціла малое ў ваду, пакуль яно не памерла. Затым прынесла з пакоя дачку, 2014 года нараджэння, і таксама ўтапіла. Пасля прыбрала кватэру, дастала з вады дзяцей, апранула іх і выклікала міліцыю. Эксперты палічылі, што жанчына не была ў стане афекту.

### Айчым пераехаў пасынка

У вёсцы Малыя Зводы Брэсцкага раёна пад коламі трактара «Беларус» загінуў 8-гадовы хлопчык. Некалькі дзяцей гулялі на дарозе. Калі трактарыст сеў за руль, ён пасігналіў дзецям. Тыя разбегліся. Праехаўшы каля 30 м, кіроўца пачуў крыкі і спыніўся. На дарозе ўбачыў свайго пасынка. Мяркуецца, што дзіця хавалася за колам трактара, і кіроўца на яго наехаў.

### Скралі машыну праз багажнік

Двое хлопцаў 22 і 23 гадоў у Мінску выпівалі ў сябра. А ўначы вырашылі паехаць у вёску Сёмкава. Сваёй машыны не было, таму вырашылі скрасці «Фальксваген» са двара. У машыну, якая была без сігналізацыі, залезлі праз багажнік. Потым «пачаравалі» з дратамі і паехалі. Аднак, праехаўшы зусім мала, яны трапілі ў аварыю. Аўто кінулі, але з салона скралі пяць мільёнаў рублёў і акуляры. Хлопцы затрыманыя.

### Адпомсціў прастытутцы

У адной з мінскіх кватэр знайшлі цела 49-гадовай прастытуткі. Пры сабе ў яе быў нататнік з пералікам і дадзенымі кліентаў. Так адшукалі і яе забойцу. 44-гадовы мінчук нядаўна выйшаў з турмы, куды, як меркаваў, яго дапамагла адправіць забітая. Пасля вызвалення ён выклікаў яе як кліент, а пры сустрэчы задушыў.

### Спрабавала паступіць за хабар

28-гадовая гарадзенка вырашыла паступіць у медыцынскі каледж на бюджэтнае аддзяленне. Аднак прыёмная камісія не прыняла ў яе дакументы з-за нізкай адзнакі ў атэстаце аб сярэдняй адукацыі: тройка па адным з профільных прадметаў не дае права на ўдзел ва ўступных іспытах. Тады яна адшукала чалавека, які за грошы падправіў тройку ў атэстаце на пяцёрку. А калі яна зноў адправілася ў прыёмную камісію, дала яе прадстаўніку хабар — 300 даляраў, 100 еўра, алкаголь і кандытарскія вырабы. Заведзена крымінальная справа. Дзеянням прадстаўніка камісіі і «выпраўляльніка» таксама даецца прававая ацэнка.

### 30 аўто сутыкнулася на трасе

Некалькі аварый адбылося на выхадных на трасе Мінск—Гомель. Усяго на ўчастку дарогі працягласцю каля 4 км (размешчаны ў нізіне) раніцай 2 жніўня з-за пагаршэння бачнасці, выкліканага задымленнем ад ляснога пажару і туманам у раёне пасёлка Татарка, сутыкнулася больш за тры дзясяткі машын. У адной з аварый спатрэбілася медыцынская дапамога: грузавік «Фальксваген» сутыкнуўся з «Івека», кіроўца «немца» шпіталізаваны.

**КМ**



# «Вар'яцтва з фантанамі прыйшло да нас з Расіі»

2 жніўня традыцыйна адзначаецца **Дзень дэсантніка**. Карэспандэнт «НН» пагутарыў з дэсантнікам, які служыў у першыя гады незалежнасці.





СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Сяржук Кедышка — сяржант, намеснік камандзіра ўзвода. Служыў у 103-й Віцебскай дывізіі. Пасля арміі паступіў ва ўніверсітэт і скончыў магістратуру па гістарычным кірунку.

### Чым горай — тым лепш

«У той вар'яцкі дом я трапіў 18-гадовым хлопцам, паўтарыўшы шлях бацькі, — пачынае расповед дэсантнік Сяржук, трымаючы ў руках свой стары берэт з бел-чырвона-белым сцягам. — Але памяці ўласціва адкідаць негатыўныя ўспаміны, таму сёння я магу сказаць, што служба ў дэсанце заклала падмурак майго характару, які дапамагае мне па жыцці.

Але тады быў шок: цябе закінулі ў шалёны асяродак, дзе ўвесь час падтрымліваецца вельмі напружаная атмасфера. Дэсант — гэта ж смяротнікі фактычна. Войскі створаны для таго, каб закідваць іх у тыл ворага і ўтрымліваць плацдарм. Гэты фаталізм — ён паўсюль. Ён ламае псіхіку і пакідае адбітак на душы.

Хоць у нас тады была поўная галеча: верталёты не лёталі, зімою ў казармах віселі сасулькі, а з ежы было толькі «мяса белага мядзведзя» і «бігас» [кіслая капуста, тушаная з салам — **АГ**], нам было абыякава. Чым горай — тым лепш».

Сяржук адзначае, што ягоная служба выпала на нявызначаныя часы сярэдзіны 90-х, калі «дзедаўшчыну» — спадчыну савецкага войска — яшчэ не выкаранілі, а ўся краіна перажывала глыбокі крызіс.

«Былі нестатутныя адносіны — даводзілася «мятацца» і «нараджаць». «Нараджаць» цыгарэты для сяржантаў, напрыклад, ці крэм для ботаў. Была ж татальная галеча — не было нават чым падшывацца. Усё прапівалі прапаршчыкі альбо хавалі на складзе на выпадак праверкі. Памятаю, да нас нейкія італьянцы прыязджалі, дык хлопцы, што іх сустракалі, хадзілі і «стралялі» значкі і іншую дробязь, каб хоць неяк больш-менш выглядаць», — прыгадвае Сяржук і кажа, што ўся «дзедаўшчына» ішла зверху, ад афіцэраў-танкістаў, якімі затыкалі дзіркі ў дэсанце, бо сваіх афіцэраў бракавала.

Танкісты, маўляў, дазвалялі сабе тое, чаго ніколі не рабілі афіцэры-афганцы: пілі ды падымалі ўвесь батальён уначы на страявую.

### Страшны час

«Тады якраз выбары былі. Першы тур я яшчэ дома галасаваў, за Пазняка. А другі тур — ужо ў войску. Нас тады ўсіх пастроілі, і палітрук сказаў, каб усе галасавалі за Лукашэнку, бо «вы ж разумееце». Але я і так галасаваў за Лукашэнку — тады такая мода была: што хто заўгодна, абы не Кебіч. Зрэшты, нам тады па 18 гадоў было, хто там што разумеў», — кажа Сяржук і адзначае, што перыяд ягонай службы быў страшным і небяспечным часам.

«Я ўжо быў сяржантам, цягнуўся 95-ы год. Гэта часы разборак у парламенце. Нас хацелі кідаць на Мінск, і разам з намі яшчэ некалькі дэсантных палкоў. Тады камбат усіх мінскіх сяржантаў сабраў на курылцы і сказаў, што можа прыйсці загад страляць у сваіх, каб мы гэта ведалі.

Я думаю, што ён не проста так гэта зрабіў, ён хацеў, каб мы асэнсавалі гэтыя словы. Бо потым мы паміж сабою гаварылі і абмяркоўвалі, што ён гэтаму загаду не падпарадкаваўся б.

Але калі што, то мы б стралялі. Я так сабе тады ўяўляў: вось мы стаім дзесьці, а майму сябру прылятае камень у галаву, а потым мне. Мы проста баранілі б сябе і з пярэпалаху стралялі б. Так бы ўсё і было», — расказвае Сяржук і прыгадвае, што акурат тады пачалася і чачэнская кампанія — афіцэры ўсур'ёз абмяркоўвалі магчымасць камандзіровак.

«Прыгадваю, як мы, узбуджаныя, глядзелі навіны пра першы штурм Грознага, дзе перабілі Майкопскую брыгаду. І мы разумелі, што з нашай падрыхтоўкай мы б там таксама галовы склалі, але быў бы загад — і ніхто б не думаў, а адразу б паляцелі. І плявваць на Канстытуцыю. Пра яе ніхто б і не задумаўся», — упэўнены былы дэсантнік.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Што такое Сілы спецыяльных аперацый

Дэ-юрэ паветрана-дэсантных войскаў у Беларусі не існуе ад 2007, калі былі створаныя т.зв Сілы спецыяльных аперацый, скарочана — ССА УС РБ. Гэта армейскі спецназ, прадстаўлены ўжо не наступальнымі савецкімі дывізіямі, а меншымі па памерах мабільнымі брыгадамі, якія ўпісваюцца ў абарончую вайсковую дактрыну Беларусі.

У складзе ССА тры брыгады, што дыслакуюцца ў Брэсце, Віцебску і Мар'інай Горцы. На базе гэтых атрадаў існуюць асобныя элітныя падраздзяленні, якія камплектуюцца афіцэрамі. Так, легендарная «афіцэрская рота» 5 асобнай брыгады спецпрызначэння лічыцца адной з найлепшых у краінах СНД — такой яна была і за часамі Савецкага Саюза.

Агульная колькасць службоўцаў ССА — каля 6 тысяч. Большая частка з іх — гэта хлопцы, што праходзяць тэрміновую службу. Паводле абарончай дактрыны Беларусі, войскі ССА займаюцца антытэрарыстычнай, контрдыверсійнай і выведнай дзейнасцю. То бок у выпадку вайны частка спецназаўцаў апынецца ў тыле альбо будзе лавіць варожых дыверсантаў у нашых лясах. Таксама беларускія вайскоўцы ССА часта бяруць удзел у сумесных вучэннях з расійскім войскам. Больш за тое — ужо некалькі год вядзецца праца па стварэнні на базе 103 асобнай мабільнай брыгады батальёна, які зможа браць удзел у міратворчых аперацыях па-за межамі Беларусі.

Бліжэйшыя анансаваныя міжнародныя вучэнні з удзелам беларускіх «неадэсантнікаў» — гэта адпрацоўка баявых дзеянняў у гарах разам з вайскоўцамі Сербіі і Расіі ў трэцім квартале 2015. Эксперты выказваюць думкі, што гэтыя вучэнні накіраваныя на трэніроўку меркаванага міратворчага батальёна ў выпадку агрэсіі т.зв. «Ісламскай Дзяржавы» супраць краіны-сябра АДКБ Таджыкістана.

### «Крокам руш»

«За часамі маёй службы нацыянальная сімволіка была дзяржаўнай, у людзей трохі прачыналася свядомасць. Памятаю, як нас паслалі «на бульбу» ў нейкі калгас. І «дзембель» вырашыў нас па дарозе паганяць. Карціна такая: бягуць тры маладыя уздоўж дарогі, змораныя ўсе. А крыху далей дзембель ідзе. Дык каля яго машына з мясцовымі «браткамі» спыняецца і адтуль мужык пытаецца: а гэта чые?

Сяржант кажа, што нашы. Тады на яго гэтыя «браткі» наехалі: маўляў, чаго ты сваіх так ганяеш, яны ж беларусы, а не з Саюза. Ён з тым пагадзіўся, і мы перасталі бегчы», — прыгадвае дэсантнік і расказвае яшчэ адну гісторыю.

«У тыя часы якраз рыхтавалася ўвядзенне беларускай мовы ў войску. Мне камбат казаў, што неўзабаве я буду загадваць не «шагом марш», а «крокам руш». Гаварылася гэта з усмешкай, з добрым жартам. У людзей не было негатыву, усе былі гатовыя да гэтага.

Але мы ведаем, як усё выйшла. А за дваццаць гадоў мы маглі б ужо пабудаваць беларускае войска», — з жалем адзначае Сяржук і прыгадвае, як яны вымушана куплялі кустарныя значкі.

«Нейкія знакі памятныя, яшчэ штосьці — гэта ўсё кустарна майстры рабілі, а мы куплялі, каб потым кіраўніцтва гэтыя значкі нам уручала. Але ўсё ж было: і кукарды з «Пагоняй», і шмат іншага.

Але нам не выдавалі — мы служылі як ляўкі, з савецкай зоркай на кукардзе і бел-чырвона-белым сцягам на берэце. Я потым сам для калекцыі купіў той берэт, які меў быць у мяне за часамі службы. Але я яго не нашу, вядома», — кажа Сяржук.

### Купанне ў фантанах — асобная гісторыя

Сяргей рэзка крытыкуе сёняшнюю традыцыю святкавання Дня дэсантніка: «Як у нас звычайна асвятляюць 2 жніўня? Дэсантнікі напіліся, лезлі ў фантан. Мяне асабіста гэта вельмі абражае, калі па неадэкватнай частцы ставіцца цэтлік на ўсіх. І што да фантанаў, то гэта асобная гісторыя.

Старэйшыя за мяне дэсантнікі казалі, што гэтае вар'яцтва прыйшло да нас з Расіі. Маўляў, неяк у маскоўскім парку Горкага п'яныя дэсантнікі залезлі ў фантан, а СМІ гэта падхапілі як «традыцыю» і разнеслі па ўсёй краіне, а потым і да нас дайшло». Дэсантнік і кажа, што сам святкуе 2 жніўня ад 1996 года, але раней гэта выглядала так: былыя службоўцы ішлі разам з афганцамі ўскладаць кветкі да Вострава Слёз. Традыцыя мела элементы смутку.

«А цяперака ўжо шмат народу з майго прызыву і не выпусціш у горад, бо баяцца ўляпацца ў прыгоды», — падсумоўвае Сяржук.

**Гутарыў Арцём Гарбацэвіч**

# Магілёўская сенсацыя, ці Нашто нам доказы

Піша **Алесь Суша**.

Днямі інтэрнэт, а за ім і многія медыя, абляцела сенсацыйная навіна: першую беларускую кнігу надрукавалі ў Магілёве за 13 гадоў да Скарыны! Навіна і праўда захапляльная, дадае нам нацыянальнай годнасці! І гонару! Чаму ж не крычаць пра гэта каля кожнага слупа? Чаму ж не перадрукаваць ва ўсіх газетах? Чаму б каторы раз не перапісаць чым хутчэй нашы падручнікі па гісторыі, літаратуры, культуралогіі...

І тут лепш не звяртацца да экспертаў — а то, не дай бог, сенсацыя сарвецца. Гэтак адбылося і ў нашым выпадку: аніяк не правяраючы інфармацыю, далі яе ў эфір. І паўсюдная эйфарыя захапіла народныя масы!

Як адзначана ў сенсацыйных навінах, «украінская даследчыца старадрукаў Святлана Кагамлык лічыць, што першая беларуская друкаваная кніга з'явілася ў 1504 годзе — на 13 гадоў раней, чым Францішак Скарына ў Празе выпусціў «Псалтыр» ...У архівах Кіева-Пячэрскай лаўры знойдзеныя дакументы, якія пацвярджаюць, што ў 1504 годзе быў выдадзены магілёўскі старадрук. Гэтая інфармацыя ўтрымліваецца ў пераліку друкаваных кніг XVIII стагоддзя. Гэта толькі пералік, рэестр, але не сам старадрук. Самой кнігі, якая называецца «Апостал» і была надрукаваная ў 1504 годзе ў Магілёве, пакуль ніхто не знайшоў». Гэту інфармацыю «падаў у народ» дырэктар Музея гісторыі Магілёва Аляксей Бацюкоў.

Пачнём з канца. Па-першае, самога такога старадрука няма і ніколі нікім не было зафіксавана ў ніводнай з бібліятэк свету.

Па-другое, у Магілёве пачатку XVI стагоддзя не існавала адпаведных умоў для заснавання друкарні: горад не меў магдэбургскага права, буйных манастыроў, вышэйшых навучальных установ... не быў нават цэнтрам павета і цэнтрам эканоміі. Што казаць, калі такіх умоў не існавала ў ніводным з гарадоў Беларусі таго часу. Іх не існавала нават у сталіцы Вялікага Княства Літоўскага — Вільні, дзе на два дзесяцігоддзі пазней Францыск Скарына пачаў кнігадрукаванне (і тое толькі пасля таго, як шмат папрацаваў у Празе, дзе кнігавыдавецкія традыцыі налічвалі некалькі дзесяцігоддзяў). З Прагі ў ВКЛ ён прывёз шрыфты, гравіравальныя дошкі, а магчыма, і майстроў. Прынамсі ў 1530 годзе ён употай хацеў вывезці з Кёнігсберга майстра-друкара для таго, верагодна ж, каб працягнуць у Вільні сваю працу. Пра адсутнасць умоў для заснавання кнігадрукавання (тэхналогія, тэхніка, шрыфты, папяровыя млыны, гравёры, тыпографскія работнікі і інш.) у тагачасным Магілёве мог бы распавесці любы кнігазнавец, але, на жаль, у іх пра гэта не спыталі.

Па-трэцяе, ніводная з беларускіх летапісных крыніц не захавала звестак пра з'яўленне ў Магілёве свайго кнігадрукавання. Нават уласна магілёўскія хронікі, якія вяліся ажно да XIX стагоддзя і захавалі самыя падрабязныя апісанні гісторыі горада, не згадваюць пра такі важны факт. Чаму? Бо і факта такога, відавочна, не было.

Па-чацвёртае, дакладнасць звестак у падобных рукапісных рэестрах вельмі ўмоўная. У іх частыя памылкі ў апісаннях кніг. Каб далёка не хадзіць, глянем у працытаваны рэестр з «магілёўскім Апосталам». Адразу ж пасля яго названы нейкі Трэфалогій друку Наўгародскага 1685 г. Але ў беларускім Навагрудку, як і ў Ніжнім, і ў Вялікім Ноўгарадзе, на той час кірылічнага кнігадрукавання проста не існавала, а ў Ноўгарадзе-Северскім друкарня Лазара Барановіча дзейнічала толькі да 1679 г., а пасля была перанесеная ў Чарнігаў. Адным словам, ніякага Трэфалогія Наўгародскага друку 1685 г. навука не ведае (як і згаданага яшчэ ніжэй кіеўскага Буквара з талкаваннем), але ж чамусьці ўкраінскія даследчыкі не кінуліся біць у званы з сенсацыйнай знаходкай новага ўкраінскага выдання.

Па-пятае, усе іншыя выданні ў згаданым рэестры (а іх там толькі дзесяць) датуюцца канцом XVII — пачаткам XVIII стагоддзя. Таму найбольш імаверным выглядае, што складальнік рэестра зрабіў памылку, запісваючы час выхаду кнігі. Мы ведаем, што Апостал выдаваўся ў Магілёве ў 1638 годзе, але з пазначэннем месца выдання як Кіеў, таму малаімаверна, што складальнік рэестра мог апісваць гэту кнігу. Наогул жа, беларускімі друкарнямі да часу складання рэестра Апостал выдаваўся ў Вільні (Скарынам у 1525; Мамонічамі ў 1591, каля 1592 і пасля 1595; віленскай брацкай друкарняй каля 1596, у 1623, 1641), Еўі (у 1611), Куцейне (каля 1632, у 1652). Некаторыя кнігі выйшлі не самастойна, а ў складзе выданняў Новага Запавету з Псалтыром.

Па-шостае, усе іншыя выданні з рэестра той жа бібліятэкі ў вёсцы Ялоўка (Ялуўка) паходзяць з усходнеўкраінскіх друкарань у Кіеве, Чарнігаве і Ноўгарадзе-Северскім (?), а адна з Масквы. Таму магчымай падаецца і памылка складальніка ў вызначэнні месца друкавання кнігі — на той час Апостал шматразова выдаваўся як украінскімі, так і расійскімі друкарнямі. Але, канечне ж, не ў 1504 годзе.

Па-сёмае, сама вёска Ялоўка мае не вельмі багатую гісторыю. Найбольш ранняя са знойдзеных намі крыніц, дзе згадваецца гэта вёска і яе царква, датуюцца XVIII стагоддзем. Як паказвае практыка, найбольш старажытныя рукапісы і старадрукі захоўваліся найчасцей у старажытных духоўных і кніжных цэнтрах. Гэта, як і значна больш позняе датаванне ўсіх іншых кніг з рэестра з'яўляецца чарговым сведчаннем на карысць памылкі складальніка гэтага спісу.

Урэшце, восьмае. Святлана Кагамлык, як сведчаць яе публікацыі і кандыдацкая дысертацыя, займалася тэматыкай культурна-асветніцкай дзейнасці Кіева-Пячорскай лаўры ў другой палове XVII—XVIII стагоддзі, даследавала жаночы і іншыя фактары ў фармаванні ўкраінскай эліты XVII—XVIII стагоддзяў, спадчыну ўкраінскай эміграцыі... Але беларускімі старадрукамі XVI стагоддзя — не займалася дакладна. Таму фраза «украінская даследчыца старадрукаў Святлана Кагамлык лічыць, што першая беларуская друкаваная кніга з'явілася ў 1504 годзе», выглядае дзіўна. Дзіўным можа падацца і яе выказванне пра магчымасць падрыхтоўкі гэтай кнігі Францыскам Скарынам: у 1504 годзе Скарына зусім юнаком (каля 14 гадоў) толькі паступіў у Ягелонскі ўніверсітэт у Кракаве і яшчэ не пазнаёміўся з працай пражскіх друкароў.

Таму трэба прыслухацца да разумнай думкі Аляксея Бацюкова: «Хутчэй за ўсё, гэта нечая памылка... Тым не менш мы збіраемся правесці сваё даследаванне». А каб не рабіць беспадстаўных высноў вельмі б параіў ініцыятарам гэтых даследаванняў заручыцца падтрымкай спецыялістаў па кнігадрукаванні на беларуска-ўкраінскіх землях у XVI стагоддзі.

На мой жа асабісты погляд, пакуль няма ніякіх падстаў казаць пра магчымае існаванне магілёўскага выдання 1504 года. Любы даследчык, які працаваў з рэестрамі царкоўных бібліятэк, можа зрабіць безліч падобных «сенсацыйных адкрыццяў».

Адчуванне такое ж, як было, калі пасля некалькіх месяцаў сенсацыйных заяў пра знаходку ў 2011 годзе ў Расонскім раёне тысячагадовага паганскага ідала раптам высветлілася, што гэта «дзіўная статуя, аналагаў якой няма ў славянскім свеце» і «знаходка сусветнага значэння», з'яўляецца падробкай і сучасным вырабам. То давайце не будзем самі сабе ствараць новых ідалаў!



**Алесь Суша**

старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў,

намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

**Фотафакт**




**31 ліпеня — 2 жніўня ва ўкраінскім Луцку ў дзявяты раз прайшоў музычны фестываль «Бандэрштат». Мерапрыемства прысвечана памяці нацыянальнага героя Украіны Сцяпана Бандэры ды ўсіх ваяроў Украінскай Паўстанцкай Арміі. Традыцыйна на фестываль запрошваецца адзін гурт з Беларусі. Раней гэта былі «Таварыш Маўзер», *Vinsent*, «Сцяна», *Akute*, *Terrakod* і «Заточка». У гэтым годзе фестываль закрываў Brutto. Фэст ладзіць моладзевая арганізацыя «Нацыянальны альянс». Да ўдзелу запрашаюцца толькі выканаўцы, творчасць якіх мае «праўкраінскі змест». Але для беларускіх гуртоў зроблена выключэнне. На фота: лідар *Brutto* Сяргей Міхалок у гушчэчы фестывалю.**

**In memoriam**

## Марыя Ганько

У Таронта (Канада) 20 ліпеня памерла Марыя Ганько. Ёй было 85 гадоў. Марыя Ганько (у дзявоцтве Кулеш) нарадзілася ў 1930-м у Шчокаўшчыне каля Хаценчыц (сёння — Вілейскі раён). Пасля прыходу Саветаў яе родныя трапілі ў спісы на раскулачванне. І ў 1944-м, каб не выпрабоўваць лёс напярэдадні другога прышэсця Саветаў, вырашылі падавацца на Захад. Яны апынуліся аж пад Берлінам, а як вайна скончылася, перабраліся пад Беласток. Там Марыя скончыла школу і тэхнікум.



У 1957-м яна наведала Беларусь, «маючы надзею застацца на радзіме», да таго ж там заставалася мама. Але страшэнная галеча беларускай вёскі ўразіла. Марыя вярнулася ў Польшчу, а ў 1959-м прыйшоў выклік ад брата Міхася з Канады... У Таронта на сходзе беларускай грамады Марыя пазнаёмілася з адным з лідараў беларускага жыцця, старшынёй Згуртавання беларусаў Канады Міколам Ганько.

«Пасля набажэнства Мікола запрасіў мяне паехаць на Ніягару. ...З той паездкі іншыя людзі для мяне не існавалі. Новы год мы сустракалі разам, і ў адказ на прапанову Міколы стаць ягонай жонкай я згадзілася».

Марыя Ганько брала ўдзел у працы ЗБК, парафіі св. Кірылы Тураўскага, была скарбнікам царкоўнай парафіі. Падтрымлівала беларускія справы і праекты. Выпусціла ў гонар мужа, што памёр у 1999-м, кнігу «Каб сведчылі пра Беларусь» (2005). У 2009-м заснавала прэмію імя Міколы Ганько, якая ўручаецца за ўнёсак у справу даследавання ці прапаганды беларускай справы. Падтрымлівала, чытала, ахвяравала. Звычайная справа для беларускай грамады ў замежжы.

**АГ**

# Дзяцінства ў засценку пры трох уладах

Польскі **прафесар-славіст Тэлесфор Позьняк**, які нарадзіўся ў Заходняй Беларусі пад Вілейкай, расказвае пра дзяцінства пры Польшчы, прыход Саветаў і нямецкую акупацыю.



**Тэлесфор Позьняк**
нар. 1932 — польскі славіст, даследчык літаратуры, прафесар. У 1978—1981 быў дырэктарам Інстытута славянскай філалогіі Уроцлаўскага ўніверсітэта. Як ураджэнец Беларусі, шмат увагі надаваў беларускай тэме ў сваіх даследаваннях. Укладальнік анталогіі беларускай літаратуры ад XIX да пачатку XX ст. і асобна па XX ст. Аўтар кніг пра Дастаеўскага. Жанаты, мае дачку. Жыве ва Уроцлаве. На пенсіі.

— Я нарадзіўся 28 лістапада 1932 у засценку (на хутары) Трапалава, што паміж Вілейкай і Куранцом, насупраць вёскі Івонцавічы. Мая маці Марыя Глэмбоцкая народжаная ў 1913 у Трапалаве. Бацька Станіслаў нарадзіўся ў 1906 у засценку Даманава, што паміж Вілейкай і Маладзечнам. Пабраўшыся ў 1932, пачалі жыць у Трапалаве. Бацькі мае працавалі на сваёй гаспадарцы: у іх было каля 10 гектараў зямлі.

Наш засценак быў польска-каталіцкім. Гаспадарылі тут добрыя шляхцічы ад XVII стагоддзя — Глэмбоцкія, Голубы, Гералты ды, крыху пазней, Сілівановічы, Позьнякі... Жылі ў Трапалаве і праваслаўныя сяляне: Валынцы, Жукаўні, Гулецкія....

**«НН»: Вашы продкі — палякі. Калі і адкуль яны з'явіліся на землях ВКЛ?**

— Першы вядомы мне прапрадзед з бацькавага боку — Шымон Позьняк, які ў XVII ст. жыў каля Ашмян. У 1690 запісана таксама прозвішча майго дзеда з матчынага боку — Ян Глэмбоцкі, уладальнік невялікага фальварка ў засценку Трапалава. На тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага мае продкі прыехалі, хутчэй за ўсё, у XVI ст. пасля Люблінскай уніі — з Мазовіі і Падляшша, — калі можна было ўжо купляць літоўскую зямлю.

**«НН»: Вы паспелі пайсці яшчэ ў польскую школу?**

— У школу я пачаў хадзіць увосень 1940 ужо пры Саветах, у вёску Івонцавічы. Настаўнік пачатковых класаў па прозвішчы Пястун быў прысланы з Усходняй Беларусі. Па-беларуску зусім не гаварыў. У першым класе я доўга не мог зразумець па-руску загады таго настаўніка кшталту «подведі черту» (думаў, што ён чамусьці лаецца). Ён загадваў вучыць савецкія песні «Широка страна моя родная», «Утро красит нежным светом стены древнего Кремля», «Будут помнить вечно самурай тіхій ветер у озера Хасан»... 22 чэрвеня 1941 ён кудысьці ўцёк.

З восені 1941 па 1942 я хадзіў у 2-гі клас пачатковай школы ў Куранцы. У 1942 вярнуўся ў школу ў Івонцавічы. Увосень 1945 я пайшоў у 5 клас у Куранцы, але хутка перавёўся ў Вілейку. Клас быў беларускі, хаця не ўсе настаўнікі валодалі чыстай беларускай мовай.

**«НН»: Вы звяртаеце ўвагу на мову настаўнікаў. Вы на якой размаўлялі?**

— У хатнім і засцянковым ужытку я карыстаўся польскай, у школе і ў кантактах з вясковымі хлопцамі гаварыў па-беларуску.

**«НН»: Нядаўна ў інтэрв'ю прафесар Іван Даніляў, які паходзіць з Драгічынскага раёна, расказаў пра тое, што за Польшчай слова «Беларусь» не ведаў нават. Як на Вілейшчыне сябе называлі мясцовыя жыхары — непалякі?**

— Да 17 верасня 1939 часцей было чуваць словы «тутэйшы» альбо «рускі-праваслаўны». Слова «беларус» функцыянавала ў беларускай публіцыстыцы, капэзэбоўскім асяроддзі, сярод паслоў польскага Сойму (грамадоўцы). Пасля 17 верасня — у савецкіх газетах, школах, офісах... Пры немцах — усюды: у школах, войску, паліцыі, урадавых установах, газетах.

**«НН»: Як беларусы ставіліся да засцянкоўцаў? Пры Польшчы ўсё-такі засцянковыя палякі былі ў прывілеяваным становішчы.**

— У Трапалаве ніякіх канфліктаў з беларускімі суседзямі не было. Мы дапамагалі адзін аднаму ці то па гаспадарцы, ці то ў сямейных справах. Маю бабулю Клару Глэмбоцкую, каталічку, часта прасіў праваслаўны суседбеларус Гулецкі ў хросныя ў Куранецкую царкву. Бабуля ніколі не адмаўляла. Нідзе не сустракаўся з варожымі адносінамі з боку беларусаў.

Выключэннем быў выпадак, калі Паўлюк Жукавень, Спірыдонаў сын, пайшоў у паліцаі. Хадзіў п'яны ў чорнай форме з вінтоўкай па Трапалаве і палохаў маіх бацькоў, што данясе немцам, як яны ратавалі куранецкіх яўрэяў. Улетку 1944 яго пакаралі смерцю партызаны.

### «Савецкія чаравікі адразу папсаваліся»

**«НН»: Памятаеце прыход Саветаў у 1939-м?**

— Так. Яны ўвосень 1939 прыйшлі чамусьці ў Трапалава, зазірнулі і да нас — кагосьці шукалі. Доўга гаварылі з бацькам. Памятаю, сядзелі за сталом у шапках-будзёнаўках з вялікімі чырвонымі зоркамі, у доўгіх шынялях, у руках трымалі вінтоўкі. Курылі самакруткі.

**«НН»: У кнізе «Імперыя» Рышарда Капусціньскага, які нарадзіўся ў Пінску ў адзін год з Вамі, прачытаў такі ўспамін з 1939/40. Дзеці даведаліся, што ў краме будуць прадаваць цукеркі. Сталі ў чаргу. Давялося прастаяць да раніцы — усю зімовую ноч. А калі краму адчынілі, жанчыны прадавалі пустыя пушкі з-пад ледзянцоў. На сценках пушак заставаўся салодкі асадак. І дзеці налівалі ў іх кіпень, а затым пілі. Мяне гэты ўспамін моцна ўразіў. Няўжо пасля прыходу Саветаў адразу стала так кепска?**

— Цукеркі, помніцца, былі яшчэ ў 1939—40, польскія. Але іх было цяжка дастаць... У сялян, хлебаробаў, харчоў хапала, каб нея пражыць. У калгасы ў 1939—41 і 1944—45 нас яшчэ не гналі. Але былі абавязковыя пастаўкі збожжа, мяса, малака. Мужчынам трэба было яшчэ працаваць у лесе: была абавязковая норма кубаметраў нарыхтоўкі драўніны — пад пагрозай арышту за сабатаж.

Бацька купіў мне савецкія чаравікі, але яны адразу папсаваліся: пацяклі, адарвалася падэшва. Бацька купіў нават савецкі ровар. Ён таксама хутка зламаўся, а запчастак да яго нідзе не было. Нехта ў Трапалаве дастаў савецкі патэфон і кружэлкі з савецкімі рэвалюцыйнымі песнямі. Але ж не хапала іголак да гэтага патэфона. Затое было шмат улётак, лозунгаў, чырвоных сцяжкоў, газет, мітынгаў...

Мы баяліся высылкі ў Сібір. Мая мама сушыла хлеб. Пасля 17 верасня 1939 нас ад высылкі ўратаваў старшыня Івонцаўскага сельсавета, Дзям'ян Жукавень (Вількота). А майго дзядзьку з вёскі Располле выслалі за Урал з усёй сям'ёй — са старой маці і цяжарнай жонкай. Старая і немаўля там і памерлі ад голаду і холаду.

### «Немцы пахавалі савецкіх лётчыкаў пад крыжамі»

— Нямецкую акупацыю ўспамінаю з жахам, зрэшты, як і ўсю вайну, пачынаючы з 1939. Вялікіх баёў каля засценка Трапалава ў чэрвені 1941 не было. Мне, васьмігадоваму хлопцу, запомніўся такі выпадак. Гарачы поўдзень, і раптам над бальшаком Вілейка—Куранец—Княгініна—Полацк пачуўся грукат самалётаў. Два нямецкія самалёты «палявалі» на савецкага «ястрабка» з чырвонымі зоркамі. Савецкі самалёт загараецца, ляціць уніз і ўразаецца ў старую бярозу. Я бягу праз поле і чыгунку ў накірунку Зімодраў, Снежкава, Гарадзішча. Гасцінец запоўнены нямецкімі грузавікамі, у іх — загарэлыя салдаты. Яны маладыя, вясёлыя. Каля гасцінца ляжыць каркас савецкага самалёта. Яго часткі раскіданыя. Рухавік ляжыць непадалёк ад хаты Мітрафана Гулецкага. Парэшткі двух лётчыкаў адразу хаваюць каля шашы. На магіле немцы ставяць бярозавы крыж, на яго вешаюць кавалак фюзеляжа і надошчачцы пішуць нешта кшталту «Тутака ляжаць рускія салдаты». Пасля, калі немцы праехалі на ўсход, людзі пачалі ламаць алюмініевыя крылы, плавіць гэтыя кавалкі і рабіць з іх лыжкі, місы... Магіла лётчыкаў, здаецца, не захавалася.

**«НН»: Цікавую дэталь Вы прыводзіце: немцы пахавалі савецкіх лётчыкаў, паставілі крыж. З савецкага боку, бадай, такое ўявіць немагчыма.**

— Пазней немцы пачалі гнаць з усходу на захад калоны савецкіх ваеннапалонных — худых, брудных, нягаленых, слабых. Тых байцоў, хто паміраў, немцы прымушалі хаваць побач з гасцінцам. Людзі ставілі над іх магіламі праваслаўныя крыжы. На некаторых з гэтых крыжоў я бачыў дошчачкі з цытатамі з расійскіх лірычных песень: «...Никто меня не вспомнит, над могилой не вздохнёт, только раннею весною соловей запоёт...» Калі ў 1944 вярнулася савецкая ўлада, крыжы знішчылі, а на іх месцы ставіліся тумбы з чырвонай зоркай. А пасля і гэтыя драўляныя тумбы згнілі.

### «Партызаны зарэзалі ўсю сям'ю паліцая»

— Былі пры немцах выпадкі, калі яны і іх памагатыя не толькі палілі і мардавалі жыхароў нібыта партызанскіх, а насамрэч звычайных вёсак, але і ўдзельнікаў вяселляў. Ведаю пра такі выпадак у в. Воўкаўшчына. Застрэлілі гарманіста, які чамусьці ўцякаў праз акно. Гэта быў жыхар Трапалава, наш сусед па прозвішчы Вазняк. У Івонцавічах, з другога боку, партызаны ноччу зарэзалі ўсю сям'ю паліцая — дзядоў, бацькоў, дзяцей. Выжыў толькі сямігадовы хлопчык, які схаваўся пад ложкам.

Успамінаецца, як немцы ў Вілейцы хавалі Рудольфа Гравэ — шэфа вілейскага СД. Яго ў 1944 партызаны падарвалі на міне. Труну з Гравэ везлі немцы на грузавіку праз цэнтр горада. За машынай маршыравала ганаровая варта. Пахавалі яго на падворку сядзібы СД. Быў урачысты вінтовачны залп. Я здалёк, з-за вугла і дрэваў, глядзеў на гэтую цырымонію. Што гэта быў за начальнік, я даведаўся пазней.

**«НН»: Вілейку моцна разбамбілі пры адыходзе немцаў?**

— Памятаю начную бамбардзіроўку горада ў ліпені 1944. Вілейка была не вельмі разбураная. Згарэлі дамы ў цэнтры. Я тады запомніў нямецкіх палонных салдат, якія прасілі падаць ім хлеб (у 1941—1944 яны загадвалі: «Матка, яйкі, шпэк-сала!»). Былі без рамянёў, нягаленыя, надта пакорлівыя. Не загадвалі ўжо, а ветліва прасілі.

Мой старэйшы стрыечны брат хадзіў глядзець у вілейскую турму на целы закатаваных немцамі жыхароў. Гэта былі вязлізня, раскапаныя магілы. Такія ж сотні ахвяр савецкага НКВД паказвалі тут людзям немцы ў 1941.

**«НН»: Вы ўзгадвалі, як паліцай пагражаў бацькам, што раскажа немцам пра іх дапамогу яўрэям. Каго яны выратавалі?**

— Бацька ўратаваў ад смерці яўрэйскага доктара Цырынскага з Куранца. Даў яму ровар і памог уцячы ў лес. Яго жонку і дзяцей немцы забілі разам з іншымі жыхарамі Куранца. Цырынскі пасля з'ехаў разам з намі ў Польшчу.

Бацька ўратаваў яшчэ і рускага хлопца Мішу Філюкова, які жыў у нашай сям'і ўсю вайну. Ён быў сіратой. Яго сям'ю нямецкія карнікі застрэлілі і спалілі ў іх жа хаце. Міша, паранены ў плячо і галаву, выпаў з палаючай хаты і ўцёк у лес. Пасля ён падаўся далей ад фронту, на захад. Трапіў пад Вілейку. Беспрытульнікам заапекаваўся мой бацька. Калі скончылася вайна, Міша вырашыў ехаць на Далёкі Усход шукаць кагосьці са сваякоў, які недзе там служыў у Чырвонай Арміі. Пасля мы атрымалі ад яго ліст з Масквы: пісаў, што ездзіў у метро.

### Новы год — у дарозе

— Самы драматычны мой успамін з Вілейкі — наш выезд у канцы снежня 1945 у Польшчу. Мы пагрузіліся ў таварныя вагоны. Увечары цягнік ад'ехаў з Вілейкі. Усе мы маліліся. Мы не ведалі, куды нас павязуць. Мы пакінулі дом, пабудаваны перад вайной, засеенае жытам поле, магілы дзядоў на цвінтарах у Глінным, Гарадзішчы. Забралі з сабой успаміны, крыжы, святыя абразы, некалькі кніг, сельскагаспадарчы інвентар.

Ехалі на захад доўга, у цесная і холадзе. Елі сухары і сала, пілі кіпень... Прыехалі ў Польшчу ў студзені 1946. Пасля доўгіх бадзянняў мы пасяліліся ў Паморскім ваяводстве, каля горада Быдгашч. Бацьку далі надзел зямлі, на якім ён пабудаваў малы дамок, пасадзіў сад, паставіў вуллі. Мы з сястрой дапамагалі бацькам у гаспадарцы. Зямлі не было шмат — каля 20 гектараў, але ж працы для нас чатырох хапала. Тым больш што трэба было плаціць падаткі, вазіць у горад абавязковыя пастаўкі: жыта, мяса, малако. Я працаваў і хадзіў у школу. Атэстат сталасці атрымаў у 1951. І тады з'ехаў ва Уроцлаў. Тут кончыў славянскую філалогію ва ўніверсітэце. У ім я падымаўся па лесвіцы навукі — ад асістэнта да прафесара. Цікавіўся творчасцю Фёдара Дастаеўскага, а таксама гісторыяй беларускай літаратуры. На пенсію выйшаў у 2003. Цяпер я ўсё больш успамінаю сваё мінулае, асабліва трапалаўскае дзяцінства.

**Сяргей Макарэвіч**

*Поўны варыянт гутаркі чытайце неўзабаве на NN.BY*

# Дзве кабеты-аднагодкі дажываюць у лясной вёсцы

Гісторыі **каталічкі Гені і староверкі Антосі.**

Вёску Масцішча ў Валожынскім раёне нельга назваць неперспектыўнай — яна знікла. Яе былыя вуліцы зараслі лесам.

Ад Мінска да Масцішча — 120 кіламетраў. Дарога бяжыць праз Ракаў, Валожын, Вішнева. У 1994 тут жыло 39 чалавек. Сёння ў лясной вёсцы засталіся дзве суседкі — каталічка і староверка. Хаты бабулек — у розных канцах вёскі. Адлегласць — з два кіламетры. Для старых жанчын гэта шмат. Таму бачацца рэдка.

**«Люблю пагаварыць з чалавекам»**

«Я люблю гасцей», — выходзіць з агарода бабуля. «Прошэ», — кабета паказвае на крэслы пад яблыняй. Як дастаём камеру, яна ідзе ў хату. «Пшэпрашам, пайду хустку памяняю».

Парэзаны зморшчынамі твар, распухлыя ад працы рукі. Яна рана аўдавела. І адна падымала пяцёра дзяцей. Адзін з іх, сын Валесь, вярнуўся да маці, калі таксама аўдавеў...

«Вунь агарод. Пілую, сяную. А хто сена, сабака, будзе есці? Хацела, каб кароўка зноў была. Люблю касіць, — расказвае кабета пра свае заняткі. — Не магу без працы, не люблю сядзець рукі склаўшы. Хто робіць, той доўта жыве. Так во зімой я хварэю — без работы не магу. Што гэтая ручная — рукавіцы раблю, вяжу шкарпэткі — мне фізічная патрэбна. А як вясна прыйшла, дзе мне здароўе знаходзіцца».

Для сваіх 80 гадоў яна яшчэ жвава рухаецца.

Бабця Геня гаворыць на рэдкага характва беларускай мове. Але ўстаўляе польскія словы. У часы яе маладосці гэта было модна. Папольску яна навучылася сама — на гэтай жа мове ў касцёле маліліся, а дома гаварылі «папросту».

Пані Жукоўская — з 1935 года. Нарадзілася ў блізкай вёсцы Беразніца. Яе вёскі ўжо няма — жыхары перабраліся ў большыя Вайганы. А яна — у Масцішча.

Раней тут вёска была вялікая: былі школа, сельсавет. А цяпер... А сёння тут захавалася толькі некалькі хат. «Усе пазміралі», — уздыхае бабуля. Засталіся толькі яна з сынам, староверка Антаніна і дачнікі з Мінска, якія сюды прыязджаюць летам.

«Гэтыя людзі такія нямыя папрыязджалі — не гавораць, — паказвае кабета ў бок хаты мінчукоў. — А я люблю пагаварыць з чалавекам».



**Царкву староверaў у Масцішчы пабудавалі ў 1936.**

Адчуваецца, што ёй бракуе зносін. І любы госць у хаце Жукоўскіх — дарагі.

У сям'і ў бабці было пяцёра дзяцей: тры сястры і два браты. Калі пані Жукоўская была малой, памерла яе старэйшая сястра. «Яна яшчэ ў дзеўках памерла. Помню, вечка ад труны паклалі, а я лягла ў яго, — гэта яна глядзела, як сястра ляжала ў труне — не разумела ж нічога. — А мама прыходзіць: «А ты дочанька! Адна ляжыць, і другая хоча».

Не жывуць ужо і браты, два гады таму не стала і другой сястры.

За палякамі сям'я жыла добра, хоць і скупавата. Але дзвюх кароў трымалі, цялушку, авечак. Пра той час бабця мала што памятае — усё з аповеды маці. А вайну ўжо запомніла. Які немцаў. Прыходзілі ў вёску, дзяцей частавалі цукеркамі. А як партызаны пачалі падрываць цягнікі, то немцы і да дзяцей азвярэлі.

«А, вечарынкі, — голас пані Жукоўскай змяняецца, на твары з'яўляецца ўсмешка, калі пытаюся пра танцы. — Пачыналіся, калі дараслі ўжо да дзяўчат. Як пастушка пойдзе на вечарынку? «Вон, шантрапа! — на нас крычалі тады старэйшыя. — Ідзіце дахаты спаць!» Смешна. Музыкантаў наймалі. Танцавалі полькі, кракавякі, «Рэчаньку». Але наша мама не хацела адпускаць: назаўтра ж на работу трэба».

Працавала ў калгасе.

Замуж выйшла ў васямнаццаць гадоў. Пабралася з аднавяскоўцам. «Крычала мама: няможна, не трэба ісці, на чорта табе гэта! Сядзі яшчэ маладая! Ён памёр — піў надта. На рабоце ўсё падвучалі піць, калі хто не хацеў. А ў яго сэрца — няможна было. Маладыі памёр, мяне пакінуў з дзецьмі. На год старэйшы быў. Болесь звалі».

Шлюб бралі ў Трабах. У Трабы, яшчэ да замуства, і ў касцёл хадзілі (блізкі касцёл у Багаданаве ў вайну згарэў). За савецкім часам ён не быў зачынены. Як і храм у Вішневе, дзе служыў ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі — беларусізатар касцельнай службы. Да абодвух храмаў ад Масцішча аднолькавая адлегласць, кіламетраў з чатырнаццаць.

«Харошы быў ксяндзок [Чарняўскі]. Помню, памёр мой мужык, дык я ўжо нясу на афяру яму якіх дзесяць рублёў. А ён: «Вой, вой, што ты, дзяцей кармі! Пяць я вазьму, пяць — ты забірай».

Зачалі служыць у касцёле пабеларуску. Чарняўскі паперакладаў усе ксёнжачкі. Я тую ксёнжачку купіла, але не ведаю, што рабіць: ломіцца ў мяне язык — здаецца, што няправільна. Не ўмею пабеларуску — я па-польску малюся. А цяпер малоцяць як боб — так хораша чытаюць па-беларуску».

Масцішча не адрэзана ад выгодаў жыцця. Не. Ёсць тут і тэлефонная сувязь. З мабільнай, праўда, праблемы — не ў любым месцы ёсць сетка. Двойчы на тыдзень прыязджае аўталаўка. Хаця бядуе бабця, што дорага там усё, а пенсія слабая — 1,9 мільёна. Яшчэ з тэлевізарам праблемы — знік сігнал пасля адключэння аналагавага тэлебачання. Радыё толькі і ратуе. А яшчэ вось такія нячастыя, як мы, госці.

**«Без Бога — ні да парога»**

Ад пані Жукоўскай кіруемся да другой жыхаркі вёскі — Антаніны Калеснікавай. Адлегласць паміж хатамі вялікая. Дзесьці на паўшляху стаіць царква староверaў і могілкі. Але каталікоў тут не хавалі амаль. Прозвішчы тут рускія — Гуцянскі, Якаўлеў... І імёны адпаведныя — Харлампій, Феактыст...



Староверка Антаніна Калеснікава.



Каталічка Геня Жукоўская.

Калі дакладна не ведаеш, дзе дом бабулі, цяжка да яго прабрацца.

«Не пойму, для какой целі езжаете по церквах?» — пытаецца бабуля, калі выходзім на яе падворак пасярод лесу. Гаворыць па-руску. Асобныя словы толькі беларускія.

«Нарадзілася я ў 1935 годзе ў Іванішках — там цяпер адзін дом застаўся. А сюды мяне прынеслі маленькай», — бацька тут збудаваў хату, у якой кабета жыве і цяпер.

Яна — з сям'і староверaў. Яшчэ іх называюць стараабрадцамі, раскольнікамі, раней называлі кацапамі, маскалямі.

Староверы з'явіліся ў гэтых краях пасля Першай сусветнай вайны — спачатку ў большых Вайганах, адтуль трапілі і ў Масцішча. Антаніна не ведае дакладна, адкуль яны прыйшлі.

«Мама — з Растова-на-Доне, непісьменная. Папка — з-пад Мінска, Селішча, усяго два класы рускія скончыў. Папка быў бацюшкам. Маме трэба было дзяцей гадаваць...»

«Антаніна, без Бога — ні да парога», — казаў бацюшка».

Бабця расказвае, што тут уся зямля належала яе дзеду Парфею. Ён і даў надзел пад царкву. Будаваць пачалі храм за палякамі — у 1929. Праз шэсць гадоў ён быў гатовы.

Вайну царква выстаяла.

Бацькоў яна пахавала даўно: маці ў 1983, бацьку — у 1986. Строгія былі. «Мама не пускала на вечарынкі — нельга ў нас хадзіць. Маўляў, зрабіце ў нядзелю з абеду і да вечара, тады пойдзеце. Альбо: набярыце журавін, тады пойдзеце. А хлопцы чакаюць. І я нідзе далёка на танцы не хадзіла. Калі на месцы толькі».

А пра вяселле ўзгадвае без ахвоты. «Ой, мне ў заслонку пазванілі, я паплакала — і ўсё».

Шлюбам пабралася ў 23 гады, малады быў з Іванішак. Дзетак нарадзілася двое — сын і дачка. Але муж, Фоцій, піў моцна. І як інсульт перанёс, не спыніўся. Жылі яны ў іншым канцы вёскі, побач з пані Жукоўскай. Але Антаніна неяк сышла ад яго ў бацькоўскую хату — восьмы год тут. А муж пасля і памёр.

Гэта не хата — а цэлая фартэцыя па памерах. Вялізная сталовая з масіўным сталом. Прасторная кухня. Тут жа выхад і ў хлеў. Праўда, нікога не трымае ўжо. Акром сабакі.

Жыве кабета на другім паверсе. Яна адстаўляе ўбок кіёк, з якім ходзіць па вуліцы, бярэцца рукамі за парэнчы і падымаецца па прыступках. Для 80-гадовай кабеты гэта не самы лёгкі занятак. А яна гэтак робіць колькі разоў на дзень. Добрая фізкультура.

У пакоі — некалькі шаф, на сценах — фотаздымкі, на стале — рэлігійныя кнігі. У сцяне — акно, праз якое адкрываецца ўся прагаліна перад домам. Утульна тут.

Дачка яе жыве пад Мінскам, у Ратамцы. Сын працуе ў Мурманску. Кабета чакае, калі ў яго скончыцца кантракт і прыедзе ў госці.

«Страшна не страшна... А што рабіць? Бог ёсць на свеце, неба і зямля. Іншы раз і страшна, але з Богам жыву».

Кабета даўно на пенсіі. «Спачатку ў буфеце працавала. Пасля прачкай стала, у інтэрнаце начной нянькай. Працавала яшчэ 11 гадоў на пенсіі з дзеткамі. Чатыры работы было. І крыўдна, што дзяржава не разбярэцца ніяк... Каэфіцыент нізкі зусім. І пенсію не дадаюць ніяк».

«Я царкву ніколі не кіну, — разважае баба Антаніна. Але вось перадаць яе няма каму.

«Я ж не бацюшка — я нікому не перадаю».

«На могілках людзей бачылі — многа? Гэта амаль я ўсіх чытала. Я ўмею. Але цяпер па начах адмаўляюся. Памёр чалавек — трэба тры дні бесперапынна чытаць, — тлумачыць адрозненні ў абрадавасці. І дадае: — Ісус Хрыстос — адзіны, што польскі, што рускі».

На развітанне кабета частуе хатнім квасам — рабіла сама. Смачны, але «моцны» — кіроўцу шмат піць такога не выпадае.

«Вам добра, маладым, жыць? А мне ўжо не хочацца моцна... Але радасна, што я гляджу на маладых — працягвайце жыццё сямейнае».

...Дзічэюць хаты ў Масцішчы — і разбураюцца. Лесам зарастаюць колішнія падворкі. Лес абступіў і могілкі з царквой. Некалі не стане і гэтых дзвюх суседак. Так і скончыцца век лясной вёскі.

**Сяргей Макарэвіч,**
**фота Сяргея Гудзіліна,**
**Валожынскі раён — Мінск**



Дзень паветрана-дэсантных войскаў, які святкуюць 2 жніўня, у Мінску прайшоў пры павышаных мерах бяспекі. Спецназ дзяжурыў ля ўсіх фантанаў у цэнтры сталіцы. Таксама спецназ не дазваляў праносіць алкаголь да Вострава Слёз. Без невялікіх патасовак усё ж не абышлося.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Фота з пікета за Караткевіч у Мінску апублікаваў у сваім фэйсбуку палітык Андрэй Дзмітрыеў. «Вось такія ПДВ нам падабаюцца», — напісаў ён пад фота.**




**1 жніўня на Кастрычніцкай плошчы прайшоў «флэш-моб жаноцкасці». Прыгожыя і прыбраныя дзяўчыны дарылі кветкі незнаёмым жанчынам. Па словах арганізатараў, такім чынам яны хацелі нагадаць юным і пажылым жыхаркам Мінска, што беларускі выдатныя. Акцыю спыніў АМАП: дзяўчат папрасілі перастаць дарыць кветкі і разысціся. Маўляў, акцыя праходзіла без дазволу гарадскіх уладаў.**




МІКІТА НЕДАВЕРКАЎ

**У мінскім гандлёвым цэнтры «Галілеа» крама вопраткі *DeFacto* распачала продаж са зніжкай саколак з надпісам «Расійская Федэрацыя». Кошт саколкі, па мінскіх мерках, надта нізкі. А бяруць усё адно слаба, кажуць прадаўцы.**



**Днепрапятроўск. Вакзал. Пункт дапамогі вайскоўцам. Баба Люда прадае кветкі, а атрыманыя грошы аддае на дапамогу салдатам.**




**У мінулым нумары «НН» пісала, як у Шклове ўсталявалі геральдычны знак з подпісам толькі па-расейску. За тыдзень шыльду памянялі. На новай шыльдзе назва горада напісана на беларускай і расейскай мовах.**



## Анекдоты і жарты

* * *

– Вы не збівалі самалёт?
–Не.
–Гэта ваш самалёт?
– Не.
– Збіты над вашай тэрыторыяй?
– Не.
– Створым трыбунал?
– Не!
– Але чаму?
– Вы русафобы!

* * *

Праблема нашых дэпутатаў заключаецца ў тым, што яны прымаюць законы, а ім трэба прымаць лекі.

* * *

На заяву ЗША аб тым, што яны разбураць расійскую эканоміку, Пуцін доўга смяяўся і сказаў, што спачатку яе трэба пабудаваць.

***

Сапраўдны адпачынак — гэта калі ты купляеш шорты і панамку, а не новыя шпалеры і ламінат.

* * *

Калі адчуеш сябе адзінокім, успомні, што ўнутры цябе жывуць розныя віды бактэрый, якія не выконваюць ніякіх функцый. Ты проста ім падабаешся.

* * *

Не, ну я разумею, што праспаць на працу — гэта справа святая, але праспаць час сыходу з працы...

* * *

У клубе хлопец захацеў здзівіць мяне і падышоў з пытаннем, ці ёсць у мяне абцугі. Было весела назіраць, як змяніўся яго твар, калі я дастала іх з сваёй сумачкі.

* * *

Муж жонцы:
– Разумееш, дарагая, я цяпер зарабляю прыстойна і магу цалкам утрымліваць яшчэ адну жанчыну, што ты на гэта скажаш?
– Выдатна! Я тэлефаную сваёй маме, хай пажыве з намі.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Магазіны Зінгера.** Ва ўсіх павятовых гарадах і многіх мястэчках Мінскай губерні закрыты аддзелы, магазіны і канторы таварыства «Зінгер».

**«НН». №29-30. 1915.**

**Таемнае жыццё Жуля Верна.** У арыгінале капітан Нэма быў каліноўцам, які помсціў расейцам за смерць сям'і і задушэнне вызвольнага паўстання 1863—1864 гадоў. Аднак выдавец Этцэль быў супраць: так вымагала палітычная кан'юнктура. Францыя больш сябравала з Расіяй, чым з Брытаніяй.

**«НН». №29. 2005.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 04.08.2015.
Замова №3163.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15029